№4 (967) 5 красавіка 2017 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Сурадзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# ТОП-100 УПЛЫВОВЫХ БЕЛАРУСАЎ



## Дык што ж рыхтаваў «Белы легіён»?

Старонка 3.

## Алесь Дудар — не герой свайго часу

Старонка 18.

## Беларусы на службе ЦРУ. AEQUOR: Група Вострыкава

Старонка 16.

# Пуцін і Лукашэнка дасягнулі важных дамоўленасцей

**Пуцін:** Нафтагазавы канфлікт вырашым за 10 дзён. **Лукашэнка:** Беларусь і Расія дамовіліся пра супольныя дзеянні ў сферы бяспекі.

Нафтагазавая спрэчка Беларусі і Расіі будзе вырашана на працягу бліжэйшых дзесяці дзён. Аб гэтым пасля перамоў у Санкт-Пецярбургу ў панядзелак заявіў Уладзімір Пуцін.

— Мы вызначылі схему, пры якой мы захоўваем нашы падыходы і збліжаем нашы пазіцыі па цэнах, — сказаў Пуцін.

У аўторак беларускі віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка заявіў, што Расія будзе пастаўляць у Беларусь штогод па 24 млн т нафты, і гэтая дамоўленасць будзе дзейнічаць да 2024 года.



Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з Пуціным 3 красавіка. Фота з сайта прэзідэнта РФ.

Таксама Расія дасць Беларусі крэдыт на аплату запазычанасці па пастаўках газу ў 2016—2017 гадах.

Прэзідэнты таксама пацвердзілі сваё імкненне да ліпеня 2019-га стварыць асноватворныя правілы па стварэнні адзінага рынку электраэнергіі, а адзіны рынак газу. Ён павінен запрацаваць у 2024 годзе.

Акрамя нафты і газу, кіраўнікі дзяржаў абмеркавалі супрацоўніцтва ў прамысловасці, касмічнай сферы і сельскай гаспадарцы. У прыватнасці, Пуцін публічна паабяцаў зняць прэтэнзіі да беларускіх прадпрыемстваў харчовай прамысловасці.

Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін падчас выніковай заявы некалькі разоў паўтарылі, што «паміж нашымі краінамі не засталося нявырашаных пытанняў».

Пакуль няясна, што крыецца за словамі Аляксандра Лукашэнкі, што «Беларусь і Расія дамовіліся аб сумесных дзеяннях у сферы бяспекі». Пытанне, ці раптоўная шчодрасць Масквы абумоўленая саступкамі Беларусі ў пытаннях суверэнітэту ці размяшчэння ў нашай краіне расійскіх вайсковых базаў.

**Мікола Бугай**

# Статкевіч заклікаў працягнуць пратэсты 1 Мая і ў Дзень Перамогі

Лідар апазіцыі заклікаў працягнуць пратэсты ў Мінску 1 Мая і 9 Мая.

Падпалкоўнік запасу Мікола Статкевіч расказаў, што быў затрыманы 23 сакавіка на кватэры свайго сябра па партыі. Ён перабраўся туды са сваёй хаты ў спадзеве, што ўдасца пазбегнуць затрымання перад Днём Волі. Гэта была аднапакаёўка без рамонту на вуліцы Лабанка ў раёне метро «Каменная Горка».

З Лошыцы да Каменнай Горкі яго везлі спачатку жонка на машыне, пасля ён перасеў на метро, а пасля яго вёз паплечнік па партыі Сяргей Кунцэвіч — пазней затрыманы.

Ягоны паплечнік прынёс туды прадукты і сшыўў. Праз нейкі час пасля гэтага дзверы пачалі адмыкаць — спачатку ключом, тое не ўдалося, тады фомкай.

Пры затрыманні з палітыкам абыходзіліся карэктна. Паказалі пасведчанні МУС, а адвезлі ў турмы КДБ. Статкевіч адзначае, што везлі на дарагім «Лексусе». «На «Лексусах», блін, ездзяць затрымоўваць!» — востра зрэагаваў Статкевіч.

Статкевічу паабяцалі паведаміць пра затрыманне жонцы, але таго не зрабілі.

Статкевічу было выстаўленае падазрэнне ў падрыхтоўцы масавых беспарадкаў, прычым ад 2011 года, хоць ён да 2015-га знаходзіўся ў зняволенні. Гэта так званая справа «Белага легіёна», Статкевіч называе яе «справай аб «Зарніцы».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У турме Статкевіч адмаўляўся даваць паказанні і нават прадстаўляцца. У той жа час ідучы па калідоры, ён кожны раз гучна крычаў «Тут Статкевіч! Добрай раніцы, тэрарысты!», каб іншыя зняволеныя ведалі, што ён тут і жывы.

Статкевіч высока ацаніў дзеянні людзей 25 Сакавіка. На ягоную думку, людзі паказалі сваю годнасць, нягледзячы на застрашванні.

Статкевіч заклікаў працягнуць пратэсты, у тым ліку 1 Мая і 9 Мая. «1 Мая збяромся на маёўку. А 9 Мая пройдзем разам з ветэранамі, ускладзем кветкі, са спадзяваннем, што Беларусь зноў будзе вызваленая», — сказаў Статкевіч.

Нагадаем, што ад 24 сакавіка экс-кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч не выходзіў на сувязь. Ён узяў на сябе адказнасць за акцыю 25 сакавіка, якая скончылася масавымі затрыманнямі.

26 сакавіка ў СІЗА КДБ Марыне Адамовіч адказалі, што Міколы ў іх няма.

**nn.by**

### Самае чытанае на nn.by за сакавік 2017

1. Улады паказалі свабоду сходу: у Мінску затрымана пад тысячу пратэстоўцаў
2. Закрыты ліст Ігару Шуневічу: Вы упэўнены, што хочаце перамагчы?
3. 3000 чалавек выйшлі на Марш недармаедаў у Мінску, пратэставалі таксама Гродна і Магілёў
4. Дзядуля з кійком, якога цягнулі некалькі амапаўцаў, расказаў, як уцёк з аўтазака
5. Дэманстранты ў Оршы, Бабруйску і Рагачове патрабавалі працы і адстаўкі Лукашэнкі — відэа, фота
6. Удзячныя гледачы дабраліся да БТ у сувязі «Укантакце»
7. «Крепкие молодые фашисты»: забойства Юліі Чарняўскай, захоп улады ў Беларусі — планы і ідэі аўтараў «Імхаклуба»
8. Відэа, як у Мінску ціхары хапаюць моладзь пасля дазволенага шэсця
9. За лагер баевікоў выдаюць афіцыйна зарэгістраваны патрыятычны летнік пад Асіповічамі — падрабязнасці
10. Ганна Трубачова і Аляксандр Tarantino Ждановіч з'ехалі ў Сан-Францыска: «Ініцыятыўныя і думаючыя беларусы — гэта героі»


### Падзякі

Дзякуем чытачам-фундатарам «Нашай Нівы» А.Саламонаву, В.Броўку, Віялеце і Вячаславу Кавалёвым, Уладу, Буслу В.Н., Вашкевічу А., Андрэю, Максімовічу, С.Ю.А., А, Алегу, Я.Чыгіру, Вацюку, Алекс Алексу, 100500, Цвірка В., Кулік С.Н., В.Кіпрыяновічу, DK, AK, Ш-аку, Святлане В., Ю.Ю., Пікірэню, Самуйловічу А.А., П.Мурзёнку, Петруку П.Г., Шыху Е.В., Габе Е.І., Андросіку Дз., Шабуню, Юліі, Сяргею Ш., Протасу, Давыдаву М., Кулябе Ю.А., Бураму І.У., Бекарэвічу, Мак-лі Н.Б., Крывічэнку Д., Арэшынай Л., Турмакову Д., 1738, Талпеку Д.М., Вурганавай, Дарэўскаму, EV, OZh, А.Томіну, М.П., Н.Васілевічу, Я.Шапавалаву, Алесю з Горадні, Аляксандру Т., М.А.Л., Д.Паршыну, Сядзяку, ZRA, Марцінкевічу, С.Белякову, Змітру Т.Ю., Лукашэвічу А., Дайліду А., Раку І., Чарнамарцавай В., Томіну, Сацукевічу, сям'і Карнейкаў, В.Дудараву, Сацуку, Краўчуку В., Міхневіч, А.Кірэеву, Ал-ч, Паўлу С., Іванкову, Аляксею.

# Дык што ж рыхтаваў «Белы легіён»?

Абсалютна новая тэма апошніх тыдняў — гэта «**Справа патрыётаў**».

Нічога падобнага раней не бывала. Па абвінавачанні ў «падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» — не беспарадках саміх, а толькі нібыта іх падрыхтоўцы — было арыштавана тры дзясяткі людзей, прычым значная частка іх — супрацоўнікі розных сілавых структур. Тое было ажыццёўлена за пару дзён да Дня Волі, калі апазіцыя заклікала да правядзення ў Мінску масавай дэманстрацыі пратэсту супраць Аляксандра Лукашэнкі.

Што, унутры краіны выспела змова з мэтай змены існуючага ладу?

Дзясятку арыштаваных ужо выставілі абвінавачанні.

«Наша Ніва» сабрала ўсё вядомае пра дзейнасць тых, каго называюць «баевікамі».



**Арыштаваны Віктар Данілаў працаваў у прыватнай фірме ў Мінску і, адначасова, настаўнікам дапрызыўнай падрыхтоўкі ў 55-й школе.**

**Спіс затрыманых па справе «аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» (магчыма, няпоўны):**

Абрамаў Аляксей Анатольевіч, 1979 года; знаходзіцца ў СІЗА КДБ. Абвінчванне па ч.3 арт. 293 КК РБ.
Барсток Сяргей Пятровіч
Бяляўскі Андрэй Валер'евіч; у СІЗА КДБ. Абвін. па ч.3 арт. 293.
Грэк Ілля Генадзьевіч, 1992 г.н., памежнік, Смаргонь.
Гурын Юрый Яўгенавіч; знаходзіцца ў СІЗА-1.
Данілаў Віктар Канстанцінавіч. У СІЗА КДБ.
Дашкевіч Зміцер Вячаслававіч. У СІЗА-1. Выстаўлена абвінавачванне па ч.3 арт. 293.
Дукшт Вячаслаў Александровіч 19.04.1992 г.н. Мар'іна Горка. Спецназавец.
Дундукоў Андрэй Вячаслававіч, 1985 г.н.. У СІЗА КДБ.
Зімніцкі Аляксандр Антонавіч. У СІЗА КДБ.
Кавальчук Іван Віктаравіч. У СІЗА КДБ, абвінавачванне па ч.3 арт. 293.
Комлік-Ямацін Андрэй Вячаслававіч. У СІЗА КДБ.
Кунцэвіч Сяргей Уладзіміравіч. У СІЗА КДБ.
Лазоўскі Міраслаў Уладзіміравіч, 1973 г.н.. У СІЗА КДБ. Выстаўлена абвінавачванне па ч.3 арт. 293.
Мароз Віктар Генадзевіч. У СІЗА КДБ.
Міхалькоў Мікалай Мікалаевіч, кіраўнік клуба «Патрыёт», Бабруйск. У СІЗА КДБ.
Міхалькоў Ян Мікалаевіч (сын кіраўніка бабруйскага «Патрыёта»), вайсковец. У СІЗА КДБ.
Новік Дзмітрый Мікалаевіч. У СІЗА КДБ.
Палтаржыцкі Яўген Канстанцінавіч, 1987 г.н. У СІЗА КДБ, Выстаўлена абвінавачванне па ч.3 арт. 293.
Пальчэўскі Сяргей Аляксандравіч. У СІЗА-1. Абвінавачванне па ч.3 арт. 293 КК РБ.
Пашкевіч Цімур. У СІЗА КДБ.
Румянцаў Уладзімір Аляксандравіч. У СІЗА КДБ, выстаўлена абвін. па ч.3 арт. 293.
Стрыбульскі Сяргей Сяргеевіч, у СІЗА КДБ. Выстаўлена абвін. па ч.3 арт. 293.
Яўдаха Аляксандр Анатольевіч, 1975 г.н.. У СІЗА-1, выстаўлена абвінавачванне па ч.3 арт. 293.

Адрасы турмаў, на якія можна пасылаць пісьмы ці адпраўляць тэлеграмы:

**СІЗА КДБ 220050, абаненцкая скрыня 8, прозвішча, імя і імя па бацьку арыштаванага**

**СІЗА №1, вул. Валадарскага, 2, г. Мінск, 220030, прозвішча, імя і імя па бацьку арыштаванага**

### Чаму радыкалы?

У фармулёўках дзяржаўных СМІ затрыманыя — «баевікі».

Між тым вартых даверу доказаў іх радыкалізму не прагучала. Існаваў фэйкавы заклік падняцца на «ўзброеную барацьбу з рэжымам» ад імя «Белага легіёна» — такое паведамленне з'явілася на ўзламанай старонцы жыхара Мінска Міраслава Лазоўскага ў фэйсбуку, ён пра гэта заявіў і адхрысціўся ў той жа дзень.

Быў паказаны таксама «схрон арматуры» ў Налібоцкай пушчы — смешны факт, калі «масавыя беспарадкі» нібыта планаваліся ў Мінску, а там працуюць дзясяткі металабаз, дзе табе такой жа арматуры за дзесяць хвілін нарэжуць поўны фургон.

Існуе яшчэ запіс нібыта прарыву з Украіны джыпа са зброяй — але ніхто не бачыў ні затрыманых у тым джыпе, ні з украінскага боку той джып не выязджаў, што дало падставы СМІ ўсумніцца ў рэальнасці факта «прарыву».

Са зброі ў арыштаваных па «справе патрыётаў» на момант затрымання знайшлі, як паведамлялася, паляўнічыя карабіны (легальныя) і пнеўматыку (таксама дазволеную).

### Дык «Белы легіён» ці не?

Па інфармацыі «Нашай Нівы», «Белы легіён» сапраўды спыніў сваё існаванне як структура яшчэ на пачатку 2000-х. Але яго ідэя — выхаванне патрыётаў Беларусі для службы радзіме (у ідэале — у сілавых структурах) — засталася жыць. Яна выражалася ў тым ліку ў працягу работы з моладдзю. Узорам быў летнік «Патрыёт» пад Бабруйскам, дзе школьнікаў вучылі элементам працы са зброяй на ўзор школьных урокаў дапрызыўнай падрыхтоўкі. Гэта ўсё спалучалася з ўрокамі беларускай мовы, гісторыі і культуры.

Немагчыма выхаваць патрыёта Беларусі без мовы і гісторыі, лічылі гэтыя людзі.

«Да палітыкі ставіліся «хутчэй абыякава», — сказалі нам людзі, блізкія да затрыманых.

І прычыны тут ясныя — палітыкі ў Беларусі няма.

Хтосьці сышоў у бізнес, хтосьці пайшоў на службу.

Ваенную і міліцэйскую акадэмію за часы незалежнасці скончылі дзясяткі выхаванцаў «Патрыёта», і дзясяткі яшчэ скончаць, бо «на летніках шмат хто з малых выказваў жаданне туды паступаць».

Але, выхаваўчая праца вялася не толькі з дзецьмі.

### Палявыя выхады

Удзельнічалі ў дзейнасці летнікаў не толькі падлеткі, але і дарослыя мужчыны, кшталту выратавальніка Дундукова і спецназаўца Дукшта.

Для кагосьці з іх гэта была выпадковасць, але для некаторых — свядомы выбар. Штуршком для трэціх стала акупацыя Крыма і вайна на Данбасе — патрыёты дапускалі, што Расія рана ці позна паспрабуе ліквідаваць дзяржаўнасць Беларусі.

У гутарках хлопцы прызнавалі, што ў выпадку агрэсіі супраць Беларусі яны гатовыя стаць касцяком добраахвотніцкага батальёна. Яны цытавалі словы Лукашэнкі, што «ў выпадку чаго ўра-патрыёты пойдуць у атаку першымі, дамо магчымасць».

Падрыхтоўка была сур'ёзнай: інструктары са спецназа, абавязковыя медыцынскія курсы і атрыманне сертыфікатаў «Чырвонага крыжа», стральба са спартовай і паляўнічай зброі (у адведзеных для гэтага месцах і пры інструктарах), заняткі адзінаборствамі.

Адпрацоўвалася таксама аўтаномнае жыццё ў партызанскіх умовах у фармаце палявых выхадаў, з начоўкамі і без.

Паводле нашых ацэнак, за апошнія гады праз трэніроўкі былых «легіянераў» прайшлі сотні чалавек. Гэта, дарэчы, паказвае, што патрыётаў у сілавых структурах больш, чым многія думаюць.

Да легіянераў ішлі розныя людзі, часам далёка не прафесіяналы баявой справы, кшталту таго ж кніганошы Яўдахі.

Нельга выключаць, што некаторыя з затрыманых «легіянераў» мелі сустрэчы на Украіне з беларусамі з добраахвотніцкіх батальёнаў. Прынамсі, факт, што многія з «легіянераў» бывалі ва Украіне. Але ніводзін «легіянер» не ездзіў ваяваць ва Украіну. Калі б такі факт быў, яго б ужо агучылі.

«У Беларусі тут усё на далоні. Ідзём мы ў камуфляжы на турбазу ў Пушчы, а па прыходзе нам кажуць, што ўжо ведалі, што да іх ідуць людзі ў камуфляжы», — сказаў нам чалавек, які браў удзел у палявых выхадах старэйшага складу «Легіёна».

Казаў ён гэта да таго, што нічога нелегальнага ці забароненага ў іх дзейнасці ён не бачыў.

Такія трэніроўкі — звычайная завядзёнка для любога страйкбольнага, хардбольнага ці пейнтбольнага клуба.

Зрэшты, паляўнічых у нашых лясах ходзіць болей, чым «легіёнаўцаў».

### І прышыты да іх Дашкевіч

Асобнай увагі заслугоўвае адначасовы з «легіянерамі» арышт Зміцера Дашкевіча і маладафронтаўцаў. У дзейнасці «Патрыёта» МФаўцы ўдзелу не бралі, менавіта таму, што «Патрыёт» і «Белы легіён» ухіляліся ад палітыкі. Арышт семярых маладафронтаўцаў — і наступнае такое ж вызваленне чатырох — можна патлумачыць толькі палітычнымі прычынамі.

Існаваў вайскова-патрыятычны клуб «Ваяр» з удзелам МФаўцаў, але гэта не выходзіла за рамкі страйкбольных трэніровак.

Пакуль справа Дашкевіча нічым не адрозніваецца ад ягонай жа справы ўзору 2010 года, па выніках якой ён быў прызнаны сусветнай супольнасцю палітычным вязнем.

### Факт і выдумкі

Падсумоўваючы, можна сказаць наступнае.

Памятаеце нашы расследаванні пра лагеры, дзе ўдзельнікі выкідваюць руку ў нацысцкім вітанні ці рэжуць галовы сабакам, як рабіў расійскі неанацыст Аляксей Мільчакоў? Дарэчы, крымінальныя справы па фактах удзелу беларусаў у тых лагерах заведзеныя не былі.

Дык вось, ніводнага падобнага дыскрэдытуючага фота ці відэа з удзелам «белых легіянераў» не выстаўлена.

Што беларускія патрыёты гуртаваліся, рыхтаваліся быць «абаронцамі Айчыны» і рыхтавалі моладзь да гэтага — факт.

Але што яны «рыхтавалі беспарадкі» або што існавала нейкая змова між імі з мэтамі, якія выходзяць за афіцыйна дэкляраваныя, — мы такіх фактаў не знайшлі.

Пакуль выглядае, што прыдуманая змова была патрэбная адзіна для таго, каб збіць хвалю пратэстаў, што нарастала ў сакавіку. Змаганне з хімерамі радыкалаў, аднак, дало грамадству сігнал, што не толькі беларускі нацыяналізм, але і нацыянальны патрыятызм не вітаецца і можа выклікаць рэпрэсіі з боку КДБ. І гэта ўваходзіць у супярэчнасць з нядаўняй заявай Аляксандра Лукашэнкі, што «здаровы нацыяналізм» — гэта нармальна і нават патрэбна.

«НН»

# Ад Лукашэнкі да «Маскараду»: топ-100 самых уплывовых беларусаў

«Наша Ніва» ў трэці раз складае спісы самых уплывовых беларусаў. Гэты адлюстроўвае стан спраў на пачатак 2017 года.

Што значыць «уплыў» у беларускіх умовах? Гэта, як і ва ўсім свеце, улада, або рэсурсы, або сімвалічны капітал. Дзякуючы апошняму, Святлана Алексіевіч заняла ў рэйтынгу рэкордна высокае для асобы без статуса чыноўніка ці мультымільянера 15-е месца. Таму што калі яна нешта скажа — да яе многія прыслухаюцца ўнутры краіны і за яе межамі.

Цікава, што эксперты сёлета ўключылі ў спіс Змітра Дашкевіча. Рэйтынг складаўся задоўга да «справы патрыётаў», па якой цесляра-палітыка арыштавалі. Але эксперты ўжо адчувалі тое, што Дашкевіч выйшаў на першыя пазіцыі ў апазіцыі.

А вось першая дзясятка ў параўнанні са спісам двухгадовай даўніны змяніла ўсяго адну постаць. Зволнены з Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Косінец вылецеў за межы сотні, затое трыумфальна вярнуўся ў склад «палітбюро» Міхаіл Мясніковіч.

Можна сказаць, што баль у краіне правяць сілавікі. У першай дваццатцы аж дзевяцярых можна так ахрысціць. Людзі ў пагонах маюць вялізную ўладу. Прычым большасць экспертаў даслала свае рэйтынгі яшчэ ў лютым. Калі б мы складалі рэйтынг цяпер, то невядома, ці не ўзняўся б яшчэ вышэй міністр унутраных справаў Ігар Шуневіч.

**Рэйтынг складалі:**
**Максім Беразінскі**, шэф-рэдактар сайта by.tribuna.com.
**Віталь Валянюк**, кіраўнік партала «Пра бізнэс», былы палітычны аглядальнік «Советской Белоруссии»
**Ігар Губарэвіч**, старшы аналітык Цэнтра Астрагорскага, былы супрацоўнік Міністэрства замежных спраў
**Аляксандр Заяц**, кіраўнік эканамічнага аддзела tut.by
**Аляксандр Зімоўскі**, медыя-кансультант, былы старшыня Белтэлерадыёкампаніі
**Святлана Калінкіна**, журналістка
**Зміцер Панкавец**, намеснік галоўнага рэдактара «Нашай Нівы»
**Андрэй Паротнікаў**, палітолаг, былы супрацоўнік Міністэрства ўнутраных спраў, кіраўнік аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog
**Яўген Прэйгерман**, эканаміст, кіраўнік «Ліберальнага клуба»
**Аляксандр Чубрык**, дырэктар даследчага цэнтра ІПМ
**N**, дзяржслужачы, які папрасіў не называць імя

**Тэксты пісаў:** Зміцер Панкавец

| № | № | Імя | Пасада |
|---|---|---|---|
| 1 | (1) | **Аляксандр Лукашэнка** | кіраўнік Беларусі |
| 2 | (2) | **Валерый Вакульчык** | старшыня КДБ |
| 3 | (4) | **Віктар Лукашэнка** | памочнік прэзідэнта па пытаннях бяспекі |
| 4 | (5) | **Андрэй Кабякоў** | прэм'ер-міністр |
| 5 | (6) | **Уладзімір Макей** | міністр замежных спраў |
| 6 | (12) | **Міхаіл Мясніковіч** | спікер Савета Рэспублікі |
| 7 | (7) | **Ігар Шуневіч** | міністр унутраных спраў |
| 8 | (10) | **Віктар Шэйман** | кіраўнік справамі прэзідэнта |
| 9 | (8) | **Павел Калаўр** | старшыня праўлення Нацбанка |
| 10 | (9) | **Уладзімір Сямашка** | віцэ-прэм'ер |
| 11 | (15) | **Леанід Анфімаў** | старшыня КДК |
| 12 | (18) | **Аляксандр Канюк** | генеральны пракурор |
| 13 | (-) | **Станіслаў Зась** | дзяржаўны сакратар Рады бяспекі |
| 14 | (24) | **Андрэй Раўкоў** | міністр абароны |
| 15 | (60) | **Святлана Алексіевіч** | пісьменніца, лаўрэат Нобелеўскай прэміі |
| 16 | (14) | **Мікалай Снапкоў** | намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта |
| 17 | (23) | **Павел Якубовіч** | галоўны рэдактар газеты «СБ. Беларусь сегодня» |
| 18 | (27) | **Сямён Шапіра** | старшыня Мінскага аблвыканкама |
| 19 | (82) | **Наталля Качанава** | кіраўніца Адміністрацыі прэзідэнта |
| 20 | (-) | **Іван Наскевіч** | кіраўнік Следчага камітэта |
| 21 | (-) | **Наталля Эйсмант** | прэс-сакратарка кіраўніка краіны |
| 22 | (21) | **Сяргей Шпягун** | кіраўнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра |
| 23 | (22) | **Васіль Мацюшэўскі** | першы віцэ-прэм'ер |
| 24 | (-) | **Андрэй Паўлючэнка** | кіраўнік службы аховы Лукашэнкі |
| 25 | (25) | **Лідзія Ярмошына** | старшыня ЦВК |
| 26 | (26) | **Дзмітрый Лукашэнка** | кіраўнік прэзідэнцкага спартыўнага клуба |
| 27 | (86) | **Максім Рыжанкоў** | першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта |
| 28 | (69) | **Васіль Жарко** | віцэ-прэм'ер |
| 29 | (31) | **Андрэй Шорац** | старшыня Мінгарвыканкама |
| 30 | (64) | **Сяргей Міхалок** | музыка, лідар гурта Brutto |
| 31 | (38) | **Уладзімір Амарын** | міністр фінансаў |
| 32 | (30) | **Андрэй Уцюрын** | першы намеснік дзяржаўнага сакратара Рады бяспекі |
| 33 | (19) | **Аляксандр Шакуцін** | старшыня рады дырэктараў ААТ «Амкадор» |
| 34 | (28) | **Усевалад Янчэўскі** | дырэктар Парка высокіх тэхналогій |
| 35 | (32) | **Генадзь Давыдзька** | старшыня Белтэлерадыёкампаніі |
| 36 | (41) | **Юрый Зісер** | заснавальнік tut.by |
| 37 | (36) | **Аляксандр Машэнскі** | уласнік кампаній «Санта-Брэмар» і «Савушкаў прадукт» |
| 38 | (39) | **Сяргей Румас** | старшыня праўлення Банка развіцця |
| 39 | (-) | **Анатоль Лапо** | старшыня Памежнага камітэта |
| 40 | (-) | **Мікалай Корбут** | памочнік прэзідэнта |
| 41 | (42) | **Мікалай Лукашэнка** | малодшы сын кіраўніка краіны |
| 42 | (35) | **Сяргей Гурулёў** | старшыня Вайскова-прамысловага камітэта |
| 43 | (40) | **Мітрапаліт Павел** | прадстаяцель БПЦ, мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі |
| 44 | (-) | **Ігар Маршалаў** | кіраўнік Дэпартамента фінансавых расследаванняў |
| 45 | (79) | **Іван Галаваты** | генеральны дырэктар «Беларуськалія» |
| 46 | (81) | **Віктар Кіслы** | заснавальнік анлайн-гульні «Свет танкаў» |
| 47 | (66) | **Уладзімір Дворнік** | старшыня Гомельскага аблвыканкама |
| 48 | (80) | **Аркадзь Добкін** | старшыня рады дырэктараў EPAM Systems |
| 49 | (45) | **Мікалай Статкевіч** | палітык, былы палітвязень |
| 50 | (47) | **Павел Тапузідзіс** | уласнік «Тытунь-Інвест» і «Кароны» |
| 51 | (70) | **Валянцін Сукала** | старшыня Вярхоўнага суда |
| 52 | (52) | **Уладзімір Андрэйчанка** | спікер Палаты прадстаўнікоў |
| 53 | (37) | **Міхаіл Русы** | віцэ-прэм'ер |
| 54 | (34) | **Леанід Мальцаў** | былы кіраўнік Памежнага камітэта |
| 55 | (59) | **Вікторыя Азаранка** | тэнісістка |
| 56 | (67) | **Уладзімір Даманеўскі** | старшыня Магілёўскага аблвыканкама |
| 57 | (54) | **Тадэвуш Кандрусевіч** | каталіцкі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп |
| 58 | (-) | **Лявон Вольскі** | музыка |
| 59 | (-) | **Уладзімір Патупчык** | міністр энергетыкі |
| 60 | (92) | **Мікалай Шарстнёў** | старшыня Віцебскага аблвыканкама |
| 61 | (43) | **Рыгор Кісель** | былы кіраўнік АНТ |
| 62 | (44) | **Уладзімір Зіноўскі** | міністр эканомікі |
| 63 | (51) | **Анатоль Калінін** | віцэ-прэм'ер |
| 64 | (68) | **Сяргей Літвін, Уладзімір Васілька** | уласнікі «Еўраопта» |
| 65 | (58) | **Уладзімір Канаплёў** | кіраўнік Беларускай федэрацыі гандбола |
| 66 | (-) | **Сяргей Налівайка** | міністр па падатках і зборах |
| 67 | (78) | **Кірыл Руды** | пасол Беларусі ў Кітаі |
| 68 | (98) | **Юрый Караеў** | намеснік міністра ўнутраных спраў |
| 69 | (89) | **Уладзімір Краўцоў** | старшыня Гродзенскага аблвыканкама |
| 70 | (97) | **Віталь Воўк** | міністр прамысловасці |
| 71 | (48) | **Алег Хусаенаў** | уласнік кампаніі «Зубр-капітал» |
| 72 | (53) | **Сяргей Цяцерын** | былы тэнісны трэнер Лукашэнкі |
| 73 | (55) | **Анатоль Капскі** | генеральны дырэктар БАТЭ |
| 74 | (73) | **Ірына Абельская** | галоўная доктарка Лечкамісіі |
| 75 | (50) | **Аляксей Дзербін** | дырэктар Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі |
| 76 | (99) | **Дар'я Домрачава** | алімпійская чэмпіёнка, Герой Беларусі |
| 77 | (90) | **Анатоль Ліс** | старшыня Брэсцкага аблвыканкама |
| 78 | (-) | **Віктар Пракапеня** | ААТ «Бануба Дэвелапмент» |
| 79 | (20) | **Лілія Ананіч** | міністр інфармацыі |
| 80 | (61) | **Сяргей Касцючэнка** | старшыня праўлення «Прыёрбанка» |
| 81 | (88) | **Міхаіл Захараў** | галоўны трэнер хакейнага «Юнацтва» |
| 82 | (71) | **Леанід Заяц** | міністр сельскай гаспадаркі і харчавання |
| 83 | (-) | **Алег Белаконеў** | намеснік міністра абароны, кіраўнік Генеральнага штаба |
| 84 | (75) | **Святлана Калінкіна** | журналістка, «Беларускі партызан» |
| 85 | (-) | **Зміцер Дашкевіч** | палітвязень, кіраўнік «Маладога фронта» |
| 86 | (74) | **Пятро Міклашэвіч** | кіраўнік Канстытуцыйнага суда |
| 87 | (94) | **Ігар Ляшэнка** | старшыня «Белнафтахіма» |
| 88 | (-) | **Алег Сліжэўскі** | міністр юстыцыі |
| 89 | (49) | **Валерый Міцкевіч** | намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта |
| 90 | (-) | **Вадзім Гігін** | дэкан філасофскага факультэта, тэлевядучы |
| 91 | (75) | **Іосіф Сярэдзіч** | галоўны рэдактар газеты «Народная Воля» |
| 92 | (-) | **Іван Сергяенка** | першы намеснік кіраўніка КДБ |
| 93 | (-) | **Павел Ціханаў** | начальнік Галоўнага выведвальнага ўпраўлення Генштаба |
| 94 | (76) | **Анатоль Лябедзька** | старшыня АГП |
| 95 | (-) | **Уладзімір Калтовіч** | міністр гандлю |
| 96 | (-) | **Алег Румо** | лекар |
| 97 | (57) | **Уладзімір Пефціеў** | бізнэсовец, былы ўласнік «Белтэхэкспарту» |
| 98 | (96) | **Сяргей Сідорскі** | былы прэм'ер-міністр |
| 99 | (-) | **Ігар Марзалюк** | дэпутат Палаты прадстаўнікоў |
| 100 | (-) | **Юрый Гурскі** | IT-прадпрымальнік, MAPS.ME, MSQRD, Prisma |

У дужках указваецца рэйтынг чалавека ў 2015 годзе.

Звяртае ўвагу, наколькі крохкія пазіцыі ў рэйтынгу ў бізнэсменаў. Яшчэ чатыры гады таму Юрый Чыж і Уладзімір Пефціеў былі ў галаве спіса. Паспяховыя, багатыя, прапускалі праз сябе мільёны. Пасля арышту і вызвалення Чыжа ўвогуле не назваў ніводзін эксперт. Пефціеў жа пляцецца ў самым самым канцы сотні.

Затое важным падаецца ўзлёт айцішнікаў. Віктар Кіслы і Аркадзь Добкін упершыню трапілі ў топ-50, а Віктар Пракапеня і Юрый Гурскі — у топ-100. І можна прагназаваць, што ў наступныя гады гэтая лічба можа нават узрасці.

# Аляксандр Лукашэнка

1 (1)

Кіраўнік краіны

Улада Лукашэнкі нічым не абмежаваная. Можна звярнуць увагу, што кожны з гэтага рэйтынгу так ці інакш звязаны з Лукашэнкам. І хоць ён сам сябе называе асобай «сыходзячай», гэтыя словы выглядаюць тактычнай хітрасцю. Лукашэнка гатовы жорстка змагацца за сваю ўладу і падаўляць любыя выклікі ёй.

Лютаўска-сакавіцкія пратэсты былі самымі магутнымі ад Плошчы-2010. У выніку каля паўтысячы чалавек аказалася на сутках. А затрыманых на Дзень Волі было пад тысячу.

У Лукашэнкі складаная міжнародная сітуацыя. Еўрасаюз трымае яго на адлегласці. Адносіны з Расіяй таксама нестабільныя. Апошнія гады ўсходняя суседка зменшала аб'ёмы пастаўленай нафты, ад чаго залежыць напаўненне бюджэту Беларусі. Кіраўнік абяцае ўжо сёлета заробак у 500 даляраў, але адкуль узяць грошай пры гэтай сістэме? Толькі прасіць ад Расіі знiжак на нафту і газ. Людзі злыя і незадаволеныя, але рэпрэсіўны апарат усё яшчэ працуе спраўна.

**«Свабода і незалежнасць даражэйшыя за любую нафту»**

(студзень 2017)

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1954 у Копысі (Аршанскі раён) у маці-адзіночкі. Гадаваўся ў вёсцы Александрыя (Шклоўскі раён). Скончыў Магілёўскі педінстытут (1975) і Горацкую сельгасакадэмію (1985). Служыў у памежных войсках КДБ СССР (1975—1977). Сакратар камітэта камсамола Магілёўскага гархарчгандлю (1977—1978), адказны сакратар Шклоўскай райарганізацыі «Веды» (1978—1980), палітрук у войску (1980—1982), намеснік дырэктара калгаса «Ударнік» на Шклоўшчыне (1982—1983), намеснік дырэктара камбіната будматэрыялаў у Шклове (1983—1985), сакратар парткама калгаса імя Леніна Шклоўскага раёна (1985—1987), дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна (1987–1990). Дэпутат Вярхоўнага Савета (1990—1994), кіраўнік Беларусі (з 1994).

# Валерый Вакульчык

2 (2)

Старшыня КДБ



SPUTNIK.BY

Гэты нягучны чалавек трымае руку на пульсе шматлікіх спраў.

Эканоміка? Усе ключавыя крымінальныя справы праходзяць асабіста праз КДБ і Вакульчыка. Так было з затрыманнем бізнэсменаў Юрыя Чыжа і Уладзіміра Япрынцава, «справай сямнаццаці», калі былыя супрацоўнікі сілавых ведамстваў раскруцілі гандаль наркотыкамі.

Палітыка? Перад леташнімі парламенцкімі выбарамі менавіта старшыня КДБ рабіў справаздачу перад кіраўніком краіны па ходзе кампаніі. У прыватнасці, сігналізаваў, што ў апазіцыі збор подпісаў ідзе зусім слаба. Цяпер ягонае ведамства разгортвае так званую «справу «Белага легіёна», па якой амаль тры дзясяткі беларускамоўных патрыётаў апынуліся ў турме. Валерый Вакульчык інтэлектуальна мацнейшы за сваіх папярэднікаў — Сухарэнку, Жадобіна, Зайцава. Гэта і дазваляе яму дастаткова доўгі час без заўважных для кіраўніка краіны касякоў заставацца на пасадзе.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1964 у вёсцы Радастава (Драгічынскі раён). Скончыў Харкаўскае гвардзейскае вышэйшае танкавае каманднае вучылішча, Вышэйшыя курсы вайсковай контрвыведкі КДБ СССР, Акадэмію кіравання. Служыў ва Узброеных сілах (1985–1991), у органах дзяржаўнай бяспекі (1991–2008). Працаваў начальнікам Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце (2008—2011), старшынёй Следчага камітэта (2011—2012). Старшыня КДБ (з 2012).

**«Калі ты трапіў на фота з прэзідэнтам, абавязаны быць крыштальна чысты перад законам»**

(сакавік 2016)

# Віктар Лукашэнка

3 (4)

Памочнік прэзідэнта па пытаннях бяспекі

Паўнамоцтвы старэйшага сына Лукашэнкі ніхто па-за колам улады дакладна не ведае. Кажуць, што менавіта ён курыруе працу ўсіх сілавых ведамстваў краіны, яму справаздачаца Вакульчык, Шуневіч, Шпягун і ўсе астатнія. На справе ж троху не зразумела, чаму 40-гадовы Віктар усё яшчэ застаецца чалавекам з пасадай, якая не выпрабоўвае адказнасцю. Раней час ад часу ўзнікалі чуткі, што Віктар можа ўзначаліць Брэсцкую вобласць ці Пагранічны камітэт. Гэта рэальная праца, дзе чалавек быў бы лепш бачны людзям, дзе людзі маглі б рэальна ацаніць ягоныя здольнасці. Пакуль жа Віктар лічыць за лепшае не даваць інтэрв'ю і не свяціцца перад тэлекамерамі. Толькі зрэдку ягонае імя выплывае ў хроніцы, калі памочнік прэзідэнта наведвае арабскія краіны, «Формулу-1» ці рассякае на байку ў цэнтры Мінска.

Паўночная Карэя, Сірыя, Азербайджан, Куба — прыклады краін, дзе ўлада пераходзіць ад бацькі да сына, хоць фармальна яна «выбарная» і «дэмакратычная».




**«У мяне старэйшы сын чарнамазы такі, кажуць, да каўказца падобны»**

(Аляксандр Лукашэнка пра сына, лістапад 2016)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1975 на Магілёўшчыне. Скончыў факультэт міжнародных адносінаў БДУ (1999). Служыў у спецпадраздзяленні памежных войскаў АСАМ, быў трэцім сакратаром, дарадцам у аддзеле Заходняй Еўропы ў МЗС (2003—2005), працаваў начальнікам аддзела замежнаэканамічных сувязяў НДІ сродкаў аўтаматызацыі (2003—2005). Ад 2005 — памочнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы.

**Аб'ектыўка**

Нарадзіўся ў 1960 у Маскве. Скончыў Маскоўскі авіяцыйны інстытут (1983), Наргас (1991). Працаваў на заводзе «Дыяпраектар» (1985–1995). Намеснік начальніка Службы дзяржкантролю (1995–1998). Старшыня КДК (1998–2000). Віцэ-прэм'ер (2000–2002, 2003–2008). Міністр эканомікі (2002–2003). Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта (2008–2010). Пасол Беларусі ў Расіі (2011–2012). Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта (2012–2014), прэм'ер-міністр (ад 2014).

# Андрэй Кабякоў

4 (5)

Прэм'ер-міністр

Уявім сітуацыю, што Аляксандр Лукашэнка з нейкай прычыны не зможа кіраваць краінай. Каму ў такім выпадку пяройдзе ўлада? Фармальна не Віктару, не Вакульчыку і не Макею. Выканаўцам абавязкаў прэзідэнта стане Андрэй Кабякоў. Магчыма, у гэтым і крыецца галоўны адказ, чаму ўсмешлівага прэм'ер-міністра эксперты паставілі настолькі высока ў нашым рэйтынгу. Галоўная задача прэм'ера ў беларускіх умовах — захаванне эканамічнай стабільнасці. Людзі жывуць не вельмі добра, але татальнага абвалу, як было ў часы Мясніковіча-Пракаповіча, пакуль не здарылася.

Кабякоў мала каго раздражняе, але гэта не значыць, што ў выпадку чаго з прэм'ера не зробяць «ахвярнага казла». Кабякоў не падтрымлівае ні замшэлых прыхільнікаў планавай эканомікі, ні лібералаў. Хаця на адным з апошніх пасяджэнняў рэзка асадзіў Пракаповіча, які прапаноўваў вярнуцца да старых парадкаў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Эмісійнае друкаванне грошай — мінулы этап»**

(люты 2017)

# Уладзімір Макей

5 (6)

Міністр замежных спраў

З яго імем звязваюць дзве апошнія адлігі ў дачыненнях Беларусі і Еўрасаюза. Міністр быў тым, хто пралабіраваў пяцідзённы бязвізавы рэжым для еўрапейцаў і амерыканцаў у Беларусі. Гэта вялізны прарыў для нашай краіны. Макея прымаюць у еўрапейскіх сталіцах, ён годна глядзіцца на фоне калег з іншых краін.

За прарыў на заходнім кірунку Макея не ўсе любяць на ўсходзе. Расійскія чарнасоценцы распаўсюджваюць бздуру, што міністр замежных спраў рыхтуе рэвалюцыю. На гэта быў вымушаны адрэагаваць нават Аляксандр Лукашэнка на апошняй вялікай прэс-канферэнцыі.

На ранейшай пасадзе Макей ажыццявіў шэраг эфектыўных рэформаў, напрыклад увёў сістэму «адно акно» ў дзяржаўных паслугах насельніцтву.

Унутры МЗС Макей падабраў цікавую каманду з маладых, адукаваных людзей.

Нядаўна менавіта Макей быў вымушаны ўлагоджваць скандал, звязаны з дэпартацыяй украінскага пісьменніка Сяргея Жадана.

У той жа час пра Макея кажуць, што гэта чалавек, для якога перакананні нічога не значаць, калі ён «пры выкананні». Ідэальны выканаўца любой палітыкі.

**«Мы проста абавязаныя зрабіць так, каб беларуская гісторыя была напісаная аб’ектыўна, каб бачылі, што карані беларускай дзяржавы сягаюць далёка ў мінулае і што нам ёсць чым ганарыцца»**

(студзень 2017).



Сяргей Гудзілін

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1958 у вёсцы Некрашэвічы Карэліцкага раёна. Скончыў Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моў (1980), служыў у савецкай разведцы (1980—1992), палкоўнік запасу. Перавучваўся ў Дыпламатычнай акадэміі МЗС Аўстрыі (1992—1993). Знаходзіўся на дыпламатычнай службе (1993—2000), працаваў памочнікам прэзідэнта (2000—2008), кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта (2008—2012). Ад жніўня 2012 — міністр замежных спраў. Мае двух сыноў ад розных шлюбаў. Другая жонка — актрыса і тэлевядучая.

# Міхаіл Мясніковіч

6 (12)

Спікер савета рэспублікі

Здавалася б, Мясніковіча ўжо спісалі з рахункаў. Але ў гэтым рэйтынгу адбылося ягонае трыумфальнае вяртанне ў дзясятку. Патлумачыць можна тым, што ягонае імя ва ўсіх на слыху пасля ўступлення ў сілу Дэкрэта №3. Менавіта Мясніковіч быў адным з першых, хто прапанаваў караць дармаедаў. Мясніковічу згадваюць таксама ўвядзенне іншых падаткаў, напрыклад дарожнага. І гэта людзі забыліся аб дэвальвацыях, што адбываліся за час яго прэм’ерства. Мясніковіч становіцца героем народнай творчасці, яго абліччa з’яўляецца на сценах гарадоў. І ў палітычным плане спікер верхняй палаты нешта яшчэ значыць: ён дазваляе сабе рэзка крытыкаваць дзейных урадоўцаў, той жа Андрэйчанка ні на што падобнае ніколі не адважваецца.

**«Калі нашы прадпрыемствы закрыты на Расію, судзіцеся, а не на БТ расказвайце»**

(снежань 2016)



Сяргей Гудзілін

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1950 у вёсцы Новы Сноў Нясвіжскага раёна. Закончыў Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1972), Мінскую Вышэйшую партыйную школу (1989). Доктар эканамічных навук. Інжынер «Мінскводаканала» (1977—1977), галоўны інжынер, кіраўнік упраўлення прадпрыемстваў камунальнага абслугоўвання Мінгарвыканкама (1977—1983). Працаваў у кіраўніцтве мінскага Савета народных дэпутатаў (1983—1985), быў сакратаром Мінскага гаркама КПБ (1985—1986). Міністр ЖКГ БССР (1986—1990), старшыня Дзяржкамітэта па эканоміцы і планаванні (1990—1991). Віцэ-прэм’ер (1990—1995), кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта (1995—2001), кіраўнік Акадэміі навук (2001—2010), прэм’ер-міністр (2010—2014). З 2015 — старшыня савета рэспублікі. Жанаты, мае сына і дачку.

# Ігар Шуневіч

7 (7)

Міністр унутраных спраў

Увасабленне *hard power* у беларускім істэблішменце. Жорсткі, упэўнены ў сабе кіраўнік. Задушэннем пратэстаў займаліся і папярэднікі Шуневіча — Навумаў і Куляшоў, — аднак цяперашні міністр нават пераўзышоў іх. Былы кадэбіст Шуневіч упершыню ўсплыў, калі прыходзіў асабіста з допытамі да арыштаваных пасля пратэстаў 2010—2011 гадоў. Вось і цікава, што яго падштурхнула да такога кроку.

У народзе з’явіўся нават наватвор, які тычыцца асоб у цывільным, якія затрымліваюць і збіваюць людзей за палітычныя погляды, — «шуняўкі».

Многія палітычныя сілы выступілі з заявай, што кіраўнік МУС мусіць сысці ў адстаўку. Але абурэнне людзей, здаецца, толькі ўмацоўвае яго пазіцыю.



Сяргей Гудзілін

**«Я ганаруся, што ў мяне ёсць форма НКВД»**

(сакавік 2017)

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1967 ва Украіне (Луганская вобласць). У 1992 скончыў Акадэмію міліцыі МУС Беларусі, служыў у міліцыі. Працаваў у КДБ (2007–2012). У студзені 2012 прызначаны першым намеснікам міністра ўнутраных спраў, у маі таго ж года — міністрам.

# Віктар Шэйман

8 (10)

Кіраўнік спраў прэзідэнта

Гады ідуць, людзі ў калодзе змяняюцца, хтосьці забываецца назаўжды, і толькі Шэйман застаецца ранейшым.

Пасля тэракта 2008 года Шэйман быў дэманстратыўна адпраўлены ў адстаўку. Потым яму прыдумвалі новыя пасады. Цяпер Тыгр, як некаторыя называюць Шэймана, разбудоўвае магутную бізнэс-імперыю пры кіраўніцтве спраў прэзідэнта. Шэймана ўсё яшчэ адпраўляюць у далёкія турнэ — Зімбабве, Куба, Венесуэла. Цікава, гэта ўжо фінальны пункт кар’еры калісьці ўсёмагутнага чыноўніка ці яго яшчэ чакаюць новыя ўзлёты?

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1958 у вёсцы Салтанішкі (Воранаўскі раён). Служыў у Савецкай Арміі, у тым ліку ў Афганістане. Дэпутат Вярхоўнага Савета ад Брэста (1990—1995). Быў разам з Лукашэнкам у аўтамабілі, калі адбыўся «стрэл пад Лёзнам». Дзяржаўны сакратар Рады бяспекі (1994—2000 і 2006—2008), генеральны пракурор (2000—2004), кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта (2004—2006). Узначальваў перадвыбарны штаб Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах. Быў памочнікам па асаблівых дручэннях. Ад студзеня 2013 — кіраўнік спраў прэзідэнта.



**«Спробы падфарбаваць сапраўднае становішча спраў у сацыяльна-эканамічным развіцці недапушчальныя»**

(ліпень 2015)

# Павел Калаўр

9 (8)

Старшыня праўлення Нацбанка

За апошні год адбылася дэнамінацыя беларускага рубля, праводзіць якую якраз і даверылі Калаўру. Многія казалі, што манеты знікнуць ужо праз пару месяцаў, але Нацбанку ўдалося стабілізаваць нацыянальную валюту на ўзроўні каля двух рублёў за даляр.

Нацбанк вядзе цяжкія перамовы з МВФ аб выдзяленні новага крэдыту. У падначаленыя Калаўр падабраў дастаткова амбіцыйную і ліберальную каманду. Праўда, у беларускіх умовах палітыка не залежыць ад рашэнняў Нацбанка.

**«Беларусі патрэбныя золатавалютныя рэзервы каля $10 мільярдаў»**

(май 2016)



**Аб’ектыўка**

Нар. у 1962 у вёсцы Белавуша на Століншчыне. Скончыў Пінскі ўліково-крэдытны тэхнікум (1980), Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя Куйбышава (1985). Кандыдат эканамічных навук (2001). Працаваў у Стаўбцоўскім, Бярэзінскім, Валожынскім аддзяленнях Дзяржбанка СССР (1985–1987), узначальваў Валожынскае аддзяленне Аграпрамбанка СССР (пасля — «Белаграпрамбанка») (1988–1993). Працаваў у сістэме Нацбанка (1993–2010), спачатку намеснікам старшыні праўлення, з 1999 — першым намеснікам. Старшыня праўлення банка «БелВЭБ» (2010–2014). Старшыня праўлення Нацбанка (з 2014).

# Уладзімір Сямашка

10 (9)

Віцэ-прэм'ер

«Ёнякбульдогуперамовах, нікому нічога не саступіць», — так некалі ахарактарызаваў Сямашку Аляксандр Лукашэнка. А іншы раз сказаў, што такога складанага характару, як у Сямашкі, няма ні ў кагоз чыноўнікаў.

Сямашка глядзіць на чалавека сур'ёзна і крыху драпежна. Нездарма ўжо больш за дзясятак гадоў менавіта яго адпраўляюць на перамовы аб энерганосьбітах у Маскву. Бывала такое, што і пад бой курантаў заключалі пагадненні.

Іншай важнай місіяй Сямашкі з'яўляецца будаўніцтва Астравецкай АЭС, таксама шмат у чым лёсавызначальны праект.

Сямашка ўжо не малады хлопчык, даўно пенсіянер, але замяніць яго ў галоўнай калодзе ўсё яшчэ не бачаць кім. Бульдогаў не выгадуеш штучна.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1949 у Калінкавічах. Закончыў БНТУ (1972). Працаваў на «Інтэграле» (1974–1996). Гендырэктар «Гарызонта» (1996–2001). Міністр энергетыкі (2001–2003). Першы віцэ-прэм'ер Беларусі (2003–2014), віцэ-прэм'ер (ад 2014).

**«Нам не патрэбны танны газ ад вас, мы пайшлі ў Еўразійскі саюз для таго, каб мець газ і энергарэсурсы па цэнах, блізкіх да вашых»**

(чэрвень 2016)



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Леанід Анфімаў

11 (15)

Старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю

Ведамства Анфімава надзеленае вельмі шырокімі паўнамоцтвамі, правярае законнасць асваення грошай на буйных праектах: Астравецкая АЭС, рэформа ЖКГ і шмат усяго іншага. Цікавыя зігзагі лёсу: у 1993 годзе малады дэпутат Аляксандр Лукашэнка абвінавачваў у карупцыі начальніка ўпраўлення па эканамічнай рэформе і рынкавых адносінах Мінгарвыканкама Леаніда Анфімава... Праўда, у тыя гады Анфімаў і Лукашэнка былі па розныя бакі. Першы ў той час уваходзіў у склад Грамадзянскай партыі, якая была прадвесніцай АГП.

Старшыня дзяржкантролю ўпэўнены, што чыноўнік павінен жыць выключна на зарплату і ў межах яе лічыць сябе багатым ці бедным чалавекам. Разам з тым Анфімаў разумее, што праверкі часта замінаюць бізнэсу нармальна працаваць, пра што неаднаразова гаварыў.



SPUTNIK.BY

**«Я не скажу, што мы лютуем. Калі чалавек працуе ў рамках прававога поля, мы да яго ніколі не прыйдзем»**

(красавік 2016)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1954 у сяле Сіма Юр'еў-Польскага раёна Уладзімірскай вобласці Расіі. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1977), Наргас (1988). Працаваў інструктарам прамыслова-транспартнага аддзела Заводскага райкама КПБ, генеральным дырэктарам вытворчага аб'яднання «Дызайн». Ад 1991 да 2001 працаваў у Мінгарвыканкаме. Потым сыходзіў у КДК, пасля чаго зноў вярнуўся ў Мінгарвыканкам. З красавіка 2006 — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. У снежні 2010 стаў намеснікам старшыні КДК. Ад кастрычніка 2014 — старшыня КДК.

# Аляксандр Канюк

12 (18)

Генеральны пракурор

У пракуратуру раяць пісаць усім, хто сутыкаецца з несправядлівасцю. Заклікі пісаць у пракуратуру былі і падчас збіцця і затрыманняў дэманстрантаў. Але дарма: Канюк ні разу ніколі не ўстаў на бок, напрыклад, чалавека, асуджанага за пратэст супраць улады. Хутчэй, наадварот, ён ацаніў цалкам адэкватным разгон Дня Волі і адмову Мінгарвыканкама даць дазвол на акцыю. А яшчэ Канюк прапанаваў штрафаваць СМІ за непраўдзівую інфармацыю.

Гэта чалавек няпростага лёсу, калісьці ў яго загінуў сын.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1960 у Гродне. Скончыў БДУ (1982). Пасля паступіў у распараджэнне камандзіра вайсковай часці ў Барысаве. Два гады быў камандзірам узвода. Потым паступіў у распараджэнне Упраўлення вайсковых трыбуналаў у Маскве. Ад 1993 — суддзя Беларускага вайсковага суда. Ад 1997 — суддзя і старшыня Мінскага міжгарнізоннага вайсковага суда. Ад 2006 — суддзя і старшыня Беларускага вайсковага суда. Ад 2009 года — намеснік старшыні, старшыня вайсковай калегіі Вярхоўнага суда. Ад верасня 2011 — генеральны пракурор. Генерал-маёр юстыцыі.

**«Сістэме выканання пакаранняў патрэбна сур'ёзная карэкціроўка»**

(жнівень 2016)

# Станіслаў Зась

13 (-)

Дзяржаўны сакратар Рады бяспекі

Адна з ключавых пасад у краіне. Зась вельмі часта знаходзіцца на фота побач з кіраўніком краіны.

Пад кіраўніцтвам Зася была распрацаваная новая Ваенная дактрына Беларусі. Вядома ж, распрацоўвалася яна з улікам магчымай вайны. Для Зася гэтая тэма не новая, некалі менавіта па гібрыднай вайне ён абараняўся ва ўніверсітэце. Другая ідэя, якую прасоўвае Зась, — гэта тэрытарыяльная абарона краіны, а таксама аптымізацыя колькасці сілавых ведамстваў. Зась — рэдкі інтэлектуал сярод сілавікоў. Пры гэтым ён па старой савецкай звычцы ганіць заходнія грамадства, лічыць яго амаральным. Гэтаксама ад яго дастаецца нацыяналістам — і беларускім, і рускім.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1964 годзе ў Чарнігаўскай вобласці Украіны. Скончыў Бакінскую вышэйшую агульнавайсковую камандную вучэльню, Вайсковую акадэмію Беларусі, Вайсковую акадэмію Генштаба Узброеных сілаў Расіі. Служыў ва Узброеных сілах, МУС, КДБ, памежных войсках. З 2008 — намеснік генсакратара Рады бяспекі Беларусі. Ад лістапада 2015 — дзяржаўны сакратар Рады бяспекі.

**«Галоўнае дасягненне Беларусі — тое, што яна развіваецца ў мірных умовах»**

(ліпень 2016)

# Андрэй Раўкоў

14 (24)

Міністр абароны

Да войска пасля падзеяў ва Украіне ўвага павышаная. Ці будзе яно здольным у выпадку канфлікту абараніць межы нашай краіны?

«Мы актыўна вывучаем досвед узброеных сілаў Украіны, які яны атрымлівалі на сваёй тэрыторыі», — казаў Раўкоў. Калі пытаюцца пра кантрактнае войска, то Раўкоў таксама змахвае на Украіну: маўляў, прыйшла вайна — і зноў вярнуліся да абавязковай службы.

Расійская вайсковая база пад Бабруйскам так і не з'явілася, затое з'явілася за гэты час новая ваенная дактрына нашай краіны. Калі адзін расійскі палітолаг укінуў у інфармацыйную прастору, што большасць афіцэраў беларускага войска гатовая да аб'яднання з Расіяй, то адказ Раўкова быў імгненны і, што не малаважна, па-беларуску: «Выказаныя сумненні наконт адданасці беларускіх афіцэраў сваёй Радзіме беспадстаўныя. Такія сумненні ва ўласнай арміі не служаць справе гарантавання бяспекі суверэннай незалежнай Беларусі».



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1967 у вёсцы Равякі Бешанковіцкага раёна. Скончыў Мінскае суворavskае вайсковае вучылішча (1984), Маскоўскае вышэйшае агульнавайсковае каманднае вучылішча (1988), камандна-штабны факультэт Вайсковай акадэміі Беларусі (1999), вайсковую акадэмію Генеральнага штаба Узброеных сіл Расіі (2005). Ад 2005 да 2012 займаў пасады камандзіра асобнай мабільнай брыгады, начальніка аператыўнага аддзела — намесніка начальніка штаба аператыўнага камандавання, начальніка штаба — першага намесніка камандуючага войскамі аператыўнага камандавання. Ад лістапада 2014 — міністр абароны.

**«Я не тое што са страхам, а са шкадаваннем глядзеў на тых афіцэраў, якія сыходзілі з беларускага войска ў Расію, ва Украіну і іншыя краіны. Шчыра кажучы, было не па сабе»**

(люты 2016)

# Святлана Алексіевіч

15 (60)

Пісьменніца

Першая лаўрэатка Нобелеўскай прэміі ад Беларусі. Паведамленне пра ўзнагароду прыйшло за пару дзён да прэзідэнцкіх выбараў 2015 года. Прэс-канферэнцыю Алексіевіч давала ў маленькай рэдакцыі «Нашай Нівы».

За крытыку Лукашэнкі ёй адмаўляюць у памяшканнях, не выдаюць на радзіме. Алексіевіч смяялася, што мае ўзнагароды з усяго свету, а вось беларускай няма ніводнай. «Я — чалавек беларускага свету», — адказала Алексіевіч крытыкам, які дакараюць яе за пісанне па-руску. А сваімі настаўнікамі назвала Алеся Адамовіча і Васіля Быкава.

Алексіевіч салідарызавалася з абаронцамі Курапатаў, у асобе зняволенага Змітра Дашкевіча лаўрэатка бачыць будучыню для нашай краіны.

Алексіевіч валодае не фінансавымі і не сілавымі рэсурсамі для ўплыву на грамадства, яе ўплыў вымяраецца словам.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1948 у Івана-Франкоўску (Украіна) у сям'і беларуса і ўкраінкі. Вывучала журналістыку ў Мінску (Белдзяржуніверсітэт). Працавала настаўніцай і журналісткай. Сусветную вядомасць атрымалі яе творы «У вайны не жаночае аблічча», «Чарнобыльская малітва», «Цынкавыя хлопчыкі», «Час сэканд-хэнд» («Канец чырвонага чалавека»). У 2015-м атрымала Нобелеўскую прэмію.


Сяргей Гудзілін

**«Дай бог нам ацалець у гэтым рускім нацыяналізме»**

(жнівень 2015)

# Мікалай Снапкоў

16 (14)

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта

Снапкоў — адзін з нямногіх, хто перажыў апошні кадравы ператрус у Адміністрацыі прэзідэнта. Гэты выхадзец з Магілёўшчыны мае рэпутацыю лібералa.

На Кастрычніцкім эканамічным форуме летась Снапкоў гаварыў пра неабходнасць адыходу ад сённяшніх прынцыпаў кіравання эканомікай. І Снапкоў, і былы памочнік Лукашэнкі ў пытаннях эканомікі Кірыл Руды, хоць і прапануюць рэформы, але іх падыход у тым, што яны павінны быць эвалюцыйнымі, а не рэвалюцыйнымі.


Сяргей Гудзілін

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1969 у Магілёве. Закончыў Беларускую сельгасакадэмію (1991), Акадэмію кіравання (2001). Працаваў эканамістам, старшым эканамістам, бухгалтарам у калгасах Магілёўшчыны і Гродзеншчыны, у сістэме «Белаграпрамбанка». Намеснік старшыні Горацкага райвыканкама (1996—2000), начальнік фінансавага ўпраўлення, а пасля намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама (2000—2009). Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта (у 2009 і з 2014). Міністр эканомікі (2009—2014).

**«Мэта павінна быць адзінай. Напрыклад, стварэнне новых працоўных месцаў»**

(кастрычнік 2016)

# Павел Якубовіч

17 (23)

Галоўны рэдактар газеты «СБ. Беларусь сегодня»

Якубовіч ніколі не скатваўся да хадульнай прапаганды, як некаторыя ягоныя калегі з БТ. Гэта адзін з наймацнейшых інтэлектуалаў, што выбраў працу на сённяшнюю ўладу. У Якубовіча вялізныя сувязі, прычым ён прымае людзей розных поглядаў і пасадаў.

У «Клубе рэдактараў» ён выбраў сабе амплуа «памяркоўнага», які спрабуе супакоіць Генадзя Давыдзьку, што заклікае да распраы з непажаданымі. А яшчэ Якубовіч ініцыяваў круглы стол па Курапатах — тэма сталінскіх рэпрэсій для яго мае асабістае вымярэнне, бо яго бацька толькі выпадкова пазбегнуў расстрэлу ў 1938-м.


Сяргей Гудзілін

**«Ніхто не мае права абражаць беларускі народ і ставіць пад сумнеў суверэнітэт Беларусі»**

(снежань 2016)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1946 ва Унечы (Бранская вобласць, Расія). Закончыў Вышэйшую вайсковую вучэльню МУС і факультэт журналістыкі БДУ (1973). Працаваў у «Знамени юности», «Крыніцы», «Народнай газеце». Галоўны рэдактар газеты «СБ. Беларусь сегодня» (з 1995).

# Сямён Шапіра

18 (27)

Старшыня Мінскага аблвыканкама

Адбылася б цяпер адстаўка прэм'ер-міністра, то лепш за Шапіру на гэтую пасаду наўрад ці хто б падышоў. Шапіра дасведчаны, дасягае поспехаў на ўсіх пасадах, за якія бярэцца. А яшчэ Шапіра — яўрэй, што заўсёды падкрэслівае Лукашэнка на нарадах, дзе прысутнічае «губернатар» Міншчыны. «Шапіра ў сінагозе маліўся. Толькі ў Мінскай вобласці дождж. Малойца, Сямён Барысавіч!» — жарт ад Лукашэнкі.

Некалі ён лічыўся лібералам. «Лічыўся» — пакуль яго не абвязалі пазвальняць незалежных выкладчыкаў у Гродзенскім універсітэце.


Сяргей Гудзілін

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1961 ў вёсцы Рэчань на Любаншчыне ў сям'і навукоўца-аграрніка. Закончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі. Працаваў у калгасах Дзяржынскага раёна, пасля ў структуры Міністэрства сельскай гаспадаркі (1999—2004). Генеральны дырэктар аграмкамбіната «Дзяржынскі» (2004—2008), міністр сельскай гаспадаркі (2008—2010), старшыня Гродзенскага аблвыканкама (2010—2013), старшыня Мінскага аблвыканкама (з 2013). Жанаты, мае дачку.

**«Старшыні райвыканкамаў заплацяць за рамонт аўто, якія трапілі ў аварыі на непачышчаных дарогах»**

(лістапад 2016)

# Наталля Качанава

19 (82)

Кіраўніца Адміністрацыі прэзідэнта

Нізкае месца Качанавай у мінулым спісе тлумачыцца тым, што яна толькі-толькі перайшла на новую пасаду з віцэ-прэм'ераў. Эксперты не ведалі, ці зможа яна даць рады новым абавязкам.

У сталіцы наваполацкая валейбалістка не разгубілася. «Качанаву прызначылі за абсалютную лаяльнасць і бязлітаснасць», — упэўнены аналітык Андрэй Паротнікаў.

Людскую незадаволенасць Качанава неаднаразова адчувала пасля заяваў пра заробкі. Напрыклад, што 1,3 мільёна для дзіцячага трэнера — гэта цалкам нармальна. Іронія ў тым, што муж Качанавай да пераезду ў Мінск сам працаваў трэнерам. Ці што 280 даляраў для настаўнікаў — выдатны ўзровень. У лукашэнкаўскай сістэме так часта здараецца, што менавіта жанчыны робяць найбольш адыёзныя заявы (згадаем Шчоткіну ці Ярмошыну).


Сяргей Гудзілін

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1960 у Полацку. Скончыла Наваполацкі політэхнічны інстытут (цяпер Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт) і пачала працаваць на полацкім «Водаканале». З 1995 года па 2002 працавала на прадпрыемстве «Жыллёва-камунальная гаспадарка Полацка». Пасля да 2007 года працавала ў Полацкім гарвыканкаме на пасадах начальніка аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі і намесніка старшыні па капітальным будаўніцтве і ЖКГ. У 2007 стала старшынёй Наваполацкага гарвыканкама, які ўзначальвала да канца 2014. 27 снежня 2014 года была прызначаная намеснікам прэм`ер-міністра Беларусі. Ад снежня 2016 — кіраўніца Адміністрацыі прэзідэнта.

**«З Расіяй былі і будзем блізкімі партнёрамі, хай не нагнятаюць»**

(студзень 2017)

# Іван Наскевіч

20 (-)

Старшыня Следчага камітэта

Лукашэнка, прызначаючы Наскевіча, заўважыў, што была дапушчаная памылка пры абранні мінулага старшыні. Гэтак жорстка ён раскрытыкаваў Валянціна Шаева.

Пры столінцу Івану Наскевічу Следчы камітэт па-ранейшаму застаецца найбольш адкрытай і гатовай да супрацоўніцтва сілавой структурай. Праз гэтую ўстанову праходзяць амаль усе гучныя крымінальныя справы, што здараюцца ў краіне. Следчы камітэт завёў крымінальныя справы на аўтараў шавіністычных расійскіх сайтаў — Алімкіна, Паўлаўца і Шыптэнку.

Цікавы факт, што Іван Наскевіч, які вучыўся ва Украіне, калі развальваўся СССР, змог атрымаць беларускі пашпарт толькі ў 1995 годзе.

**«Варта выразна разумець, што палітыка — асобна, Следчы камітэт — асобна»**

(снежань 2016)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1970 годзе ў вёсцы Цераблічы Столінскага раёна. З 1995 года — на службе ў органах пракуратуры Брэсцкай вобласці на следчай працы. У жніўні 2012 года быў прызначаны пракурорам Берасцейшчыны. Ад лістапада 2015 — старшыня Следчага камітэта.



# Наталля Эйсмант

21 (-)

Прэс-сакратарка Лукашэнкі

За два апошнія гады гэтая маладая жанчына стала адной з самых заўважных постацяў у атачэнні кіраўніка краіны. Цяпер яна не проста агучвае афіцыйную пазіцыю кіраўніцтва, але мае магчымасці фарміраваць парадак дзён на свой густ.

Кажуць, менавіта Эйсмант зрэжысавала студзеньскі «Вялікі дыялог», дзе ўпершыню незалежныя СМІ не атрымалі слова.

Лукашэнка скасаваў пасады намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта па ідэалогіі і памочніка па ідэалогіі. Паўнамоцтвы Бузоўскага і Янчэўскага перайшлі менавіта да Эйсмант. А яшчэ Эйсмант стала непасрэднай начальніцай міністра інфармацыі, а таксама рэдактараў дзяржаўных СМІ. Гэта значыць, акурат падчас планёрак з ёй выданні будуць атрымліваць рэкамендацыі, як і што пісаць.

**«Натуральна, прызначэнне і прапанова такога ўзроўню — пра яго не думаеш. Гэта складанае пытанне: нечакана — гэта першая рэакцыя. Але потым разумееш, што ў гэтым ёсць нейкі сэнс»**

(лістапад 2014)



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1984 годзе, скончыла мінскую музычную вучэльню, Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. У мінскім Тэатры музкамедыі выконвала дзіцячыя ролі. З 2006 працавала ў Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі пад псеўданімам Наталля Кірсанава. Вяла выпускі навін, праграму «Панарама».

# Сяргей Шпягун

22 (21)

Кіраўнік Аператаўна-аналітычнага цэнтра

У пачатку 2017-га Шпягун атрымаў заданне прасачыць за тым, як дзяржаўныя чыноўнікі працаўладкуюць да 1 красавіка ўсіх сваіх жонак, каханак, мужоў, родных і блізкіх. Дагэтуль апошняя вестка пра гэтага чалавека на сайце БелТА датавалася аж 2014 годам.

Шпягун — самы закрыты беларускі сілавік. Часцей за ўсё на нарадах ён сядзіць побач з Віктарам Лукашэнкам. Адзінае, што вядома, — Шпягун паходзіць з Берасцейшчыны.

Ягонае ведамства займаецца рэгуляваннем інтэрнэту. Напрыклад, менавіта ААЦ на нейкі час пазбаўляў даменнага імя папулярны сайт «Анлайнер». А вось першы намеснік Шпегуна Рабаволаў нядаўна перайшоў на працу ў Міністэрства інфармацыі.

**Аб'ектыўка**

Біяграфія ў адкрытых крыніцах адсутнічае.

# Васіль Мацюшэўскі

Першы віцэ-прэм'ер

Ад Мацюшэўскага чакалі рэформаў. Думалася, што гэты топ-менеджар, які носіць модныя пінжакі і туфлі, будзе адпавядаць эпосе не толькі ў адзенні, але і памкненнямі. На справе ж Мацюшэўскаму зусім не да рэформ, ягоны галоўны абавязак заключаецца ў тым, каб шукаць крэдыты. Перамаўляцца з МВФ, пускаць там пыл у вочы, што Беларусь гатовая да сістэмных пераўтварэнняў, а на справе проста шукаць грошы, якія могуць залатаць дзіркі ў эканоміцы.

**«Структура ўрада павінна мяняцца»**

(май 2016)



23 (22)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1969 у Оршы. Скончыў эканамічны факультэт БДУ (1991), аспірантуру Інстытута эканомікі Акадэміі навук (1994), Лонданскую школу бізнэсу (2012). Кандыдат эканамічных навук. Працаваў начальнікам аддзела ў НПА «Фенікс» (1991—1992), навуковым супрацоўнікам НДІ эканомікі Дзяржэканамплана (1992), трэцім сакратаром МЗС (1992–1994), у сістэме Нацбанка — ад галоўнага эканаміста да намесніка старшыні (1994—1997, 1998—2010), дарадцам міністра фінансаў (1997—1998), старшынёй праўлення «БПС-Сбербанка» (2010—2014). З 2014 — першы віцэ-прэм'ер. Жанаты, мае сына.

# Андрэй Паўлючэнка

24 (-)

Начальнік службы аховы прэзідэнта

Лукашэнка дастаткова часта мяняе сваіх целаахоўнікаў. Паўлючэнка стаў ужо дванаццатым. Толькі Андрэй Уцюрын змог пратрымацца на пасадзе доўга. Папярэднік Паўлючэнкі Шынкевіч адпрацаваў кіраўніком Службы аховы толькі два гады. Паўлючэнка — гэта той чалавек, які суправаджае кіраўніка краіны і ў паездках па рэгіёнах, і за мяжу. Служба аховы прэзідэнта — шматлікая і разгалінаваная структура. Афіцыйная біяграфія Паўлючэнкі нідзе не друкавалася — у гэтым адрозненне яго ад папярэднікаў, ён не дае інтэрв'ю.

**Аб'ектыўка**

Да прызначэння на гэтую пасаду быў начальнікам упраўлення Службы бяспекі прэзідэнта.



**«Паўлючэнка — чалавек дасведчаны, яму ўласцівая высокая выканальнасць»**

(Аляксандр Лукашэнка, снежань 2016)

# Лідзія Ярмошына

25 (25)

Старшыня ЦВК

Наступныя выбары яшчэ нягутка, таму на нейкі час Ярмошына адышла ў цень. Думалі, што апошнія парламенцкія выбары апошнімі для бабруйскай юрысткі, але не, Лукашэнка ўсё яшчэ не мае ёй замены. За апошнія гады старшынька ЦВК рэалізавала свае мары — наведала Рым і Парыж. Яна любіць і ўмее выступаць на тэлебачанні, гатовая да рэзкіх пытанняў і адказаў. А вось памочнік Ярмошынай па ЦВК Мікалай Лазавік летась памёр пасля хуткацечнай анкалогіі.

**«Я занадта маладая душой, каб вязаць шкарпэткі»**

(снежань 2016)

**Аб'ектыўка**

Аб'ектыўка: Нар. у 1953 у Слуцку. Скончыла юрфак Калінінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1975). Працавала юрканcультантам у Калінінградзе і Бабруйску (1975—1987), памочнікам раённага пракурора ў Калінінградзе (1987—1988). Кіраўнік юрыдычнай службы Бабруйскага гарвыканкама (1988—1996). Сябра ЦВК (1992—1996), старшыня ЦВК (з 1996). Разведзеная, мае сына.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Дзмітрый Лукашэнка

26 (26)

Сярэдні сын кіраўніка Беларусі

Калі абмяркоўваецца пытанне пераемнасці, то ніхто ніколі не згадвае Дзмітрыя Лукашэнку. Ён вядзе дастаткова ціхае жыццё, узначальваючы Прэзідэнцкі спартыўны клуб. Але спісваць з рахункаў любога члена сям'і кіраўніка краіны не выпадае. Дзмітрый у свой час быў блізкі да апальнага бізнэсмена Юрыя Чыжа, яны разам ездзілі прадаваць беларускую тэхніку ў Расію. Цяпер Дзмітрый часцей за ўсё з'яўляецца на публіцы разам з сям'ёй падчас навагодніх святаў. Яго ныя дочкі — Дар'я і Настасся — былі пераможцамі конкурсу сачыненняў на беларускай мове.



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1980. Вырас пад Шкловам. Скончыў факультэт міжнародных адносін БДУ, абараніўшы дыплом па тэме «Выступы беларускіх спартоўцаў на міжнароднай арэне». Кіраўнік прэзідэнцкага спартовага клуба. Жанаты, мае трох дзяцей.

**«Няздольных дзяцей не бывае. Проста не ўсе сябе знаходзяць»**

(снежань 2014)

# Максім Рыжанкоў

27 (86)

Першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта

Сын былога міністра спорта спачатку рабіў кар'еру на дыпламатычнай арэне. Потым яму прапанавалі нечаканую пасаду памочніка прэзідэнта па спорце. Кажа, што згадзіцца трэба было за суткі. Рыжанкоў пагадзіўся.

Галоўным дасягненнем у спорце стала атрыманне Беларуссю II Еўрапейскіх гульняў. Нідэрланды адмовіліся ад іх, бо вельмі дорага. Дый сам Рыжанкоў казаў, што па фінансах пацягнуць такое спаборніцтва вельмі цяжка. Аднак калі Лукашэнка прыняў рашэнне, што такія гульні нам патрэбныя, то і Рыжанкоў змяніў пункт гледжання. Рыжанкоў вядзе твітар, дзе часам дазваляе сабе дастаткова бяздітасную крытыку спартсменаў, якія сумняюцца ў рашэннях улады. Цяпер самы высокі (ростам) беларускі чыноўнік пайшоў на павышэнне. У камандзе з Наталляй Качанавай яны прыйшлі ў адміністрацыю.

**«Ніхто не ўзгадае мяне як «татавага сынка»**

(лістапад 2015)

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1972 годзе ў Мінску. Скончыў юрфак БДУ (1994), Акадэмію кіравання пры прэзідэнце (2003). Працаваў у Цэнтральным апараце Міністэрства замежных спраў (1994—1996), пазней быў супрацоўнікам амбасады Беларусі ў Ізраілі (1996—2000). З 2000 па 2003 — начальнік аддзела АБСЕ і Рады Еўропы МЗС Беларусі. У 2003—2005 — дарадца амбасады ў Польшчы. Далей на год стаў начальнікам упраўлення Амерыкі МЗС Беларусі. З 2006 па 2012 — начальнік упраўлення замежнай палітыкі адміністрацыі Лукашэнкі. З 2012 — памочнік Лукашэнкі ў пытаннях фізкультуры, спорту і развіцця турызму. Ад снежня 2016 — першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

# Васіль Жарко

28 (69)

Віцэ-прэм'ер

Больш за дзесяць гадоў Васіль Жарко займаў пасаду міністра аховы здароўя. Ва ўніверсітэт Жарко паступіў з другой спробы. Кар'еру пачаў будаваць па камсамольскай лініі. Лёсавызначальнай для Жарко была праца ў Брэсцкай дзіцячай бальніцы з Людмілай Пастялка, будучай міністаркай аховы здароўя. Потым яна і выцягнула Жарко ў Мінск. Многіх абурыла інфармацыя, што Жарко будуе за Нацыянальнай бібліятэкай у Мінску шыкоўны катэдж, у той час як заробкі ў сферы медыцыны складаюць 400 даляраў. Зрэшты, гэта не стала перашкодай для будучага кар'ернага ўзвышэння, цяпер Жарко курыруе ўвесь сацыяльны блок ва ўрадзе.

**«Мая вам парада: ні ў якім выпадку вы не павінны быць добрым дзядзькам для кагосьці»**

(Аляксандр Лукашэнка пра Жарко, снежань 2016)



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1956 годзе ў вёсцы Лесніке Драгічынскага раёна. У 1984 годзе скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут. У 2008-м — Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. Медычную кар'еру пачаў у 1984 годзе як доктар-інтэрн Брэсцкай абласной дзіцячай бальніцы, потым быў доктарам-тэрапеўтам, раённым педыятрам, загадчыкам аддзялення Драгічынскай раённай бальніцы. Потым зрабіў кар'еру ў ведамстве і ў маі 2006 года стаў міністрам аховы здароўя. Ад снежня 2016 — віцэ-прэм'ер.

# Андрэй Шорац

29 (31)

Старшыня Мінгарвыканкама

Мінск — тое месца, куды сцякаюцца людзі і грошы з усёй краіны. Кіраваць сталіцай пачэсна і складана. Сціплага чыноўніка з Віцебска Шорца прызначалі ў Мінгарвынкам пасля адносна ўдалай рэформы, якую яму ўдалося правесці падчас працы ў Міністэрстве ЖКГ. Праўда, апошнім часам імя гарадскога начальніка ўсё часцей трапляе ў СМІ з нагоды скандалаў. Напрыклад, немагчымасць знайсці ўцямнага рашэння па будаўніцтве бізнэс-цэнтра каля Курапатаў. Шорац не адважваўся сказаць ні так, ні не. Нешта падобнае было і ў час змагання людзей супраць высечкі парка Котаўка. Шорцу бракуе волі на прыняцце важных рашэнняў, але, можа, такі чалавек і трэба на пасадзе старшыні сталічнага выканкама?


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1973 у Віцебску. Скончыў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт (1995) і Акадэмію кіравання (1999). Працаваў на Віцебскім прыборабудаўнічым заводзе (1995—1997), у Беларускім патрыятычным саюзе моладзі (1997—1998), у Віцебскім аблспажыўсаюзе (1999—2002), у Віцебскім аблвыканкаме (2002—2010). Намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі (2010—2011), міністр ЖКГ (2011—2014). Старшыня Мінгарвыканкама (з 2014).

**«Калі вам сорамна за Мікалая Лукашэнку ў ААН — з'язджайце з Беларусі»**

(кастрычнік 2015)

# Сяргей Міхалок

30 (64)

Спявак, лідар гурта Brutto

Яго песні спяваюць кампаніі ў дварах пад гітару, а таксама вулічныя музыкі. Песні «Ляпіса», а цяпер ужо і Brutto сталі класікай. На сёння ніхто сярод музыкаў не мае такога ўплыву на публіку, як Міхалок. Ні Лявон Вольскі, ні Макс Корж. Міхалок перастаў размаўляць пра палітыку, даваць жорсткія інтэрв'ю, але замест яго гавораць тэксты. Якія словы патрэбныя, калі «Мінск-Арэна» становіцца на калені падчас выканання песні «Гары», нефармальнага гімна абаронцаў незалежнасці Украіны.

Міхалку пасля доўгага перапынку зноў дазволілі граць канцэрты ў Беларусі, і ён гэтым карыстаецца напоўніцу. Яму ўдалося сабраць у Brutto цікавы калектыў — чаго варты хаця б шматразовы чэмпіён свету па тайскім боксе Віталь Гуркоў.

**«Мяне, Зелю і Макара запрасілі вярнуцца на радзіму і разам будаваць новую дэмакратычную еўрапейскую Беларусь. Мы прайшлі праверку ўсіх сілавых структур і ведамстваў, праверку тэкстаў і ідэалогій, і — о цуд! — да Brutto няма прэтэнзій, Brutto — чысты дыямент»**

(люты 2016)



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1972 у Дрэздэне (Нямеччына) у сям'і беларуса, які там служыў у Савецкай Арміі. Спявак, аўтар музыкі і тэкстаў; да 2014 года — вакаліст і галоўны ідэолаг гурта «Ляпіс Трубяцкой». З верасня 2014 года — вакаліст Brutto.

# Уладзімір Амарын

31 (38)

Міністр фінансаў

Дзярждоўг, фарміраванне бюджэту, перамовы з замежнымі інвестарамі па новых крэдытах — гэта тое, што ўваходзіць у непасрэдныя абавязкі кіраўніцтва Мінфіна. Гэта ўсё няпросты адрэзак. Характэрна, што папярэднікі Амарына (Корбут і Харкавец) сыходзілі з пасады па стане здароўя. Амарын — гэта не самы харызматычны чыноўнік з кіруючай эліты.



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1961 у Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі (1983) і Акадэмію кіравання (2006). З 1983 працуе ў фінансавай сістэме Беларусі. Першы намеснік міністра фінансаў (2008—2014), міністр фінансаў (з 2014).

**«Перамовы з МВФ усё яшчэ працягваюцца»**

(кастрычнік 2016)

# Андрэй Уцюрын

32 (30)

Першы намеснік дзяржсакратара Рады бяспекі

Чалавек, які найдаўжэй адпрацаваў на пасадзе галоўнага ахоўніка Лукашэнкі. А гэта значыць многае. У камандзе Лукашэнкі ён ужо больш за 20 гадоў — ад 1995-га. Выконваць ролю звычайнага целаахоўніка для Уцюрына не было задачай усяго жыцця. Цяпер ён намеснік Станіслава Зася. І гэта добры плацдарм для далейшага росту. Праўда, з публічнай прасторы Уцюрын знік за часам аховы зусім (яго можна было пабачыць хаця б падчас замежных візітаў Лукашэнкі).

Уцюрын хоць і нарадзіўся не ў Беларусі, але гадаваўся менавіта тут.



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1971 у Пензе. У 1992 скончыў Саратаўскае вышэйшае вайсковае камандные вучылішча МУС Расіі, а ў 2002 — Акадэмію МУС Беларусі. Ад 1995 — у службе аховы Лукашэнкі. Узнагароджаны ордэнамі «За бездакорную службу» і «За службу Радзіме». Кіраўнік Службы аховы ад 2007 года. Ад 2014 — намеснік дзяржсакратара Рады бяспекі.

**«24 гадзіны ў суткі сем дзён у тыдзень ты забяспечваеш бяспеку прэзідэнта, іншых асоб і аб'ектаў. Мабыць, самае складанае ў рабоце кіраўніка — прыняць рашэнне, ад якога могуць залежаць жыцці»**

(кастрычнік 2014)

# Аляксандр Шакуцін

33 (19)

Старшыня рады дырэктараў ААТ «Амкадор»

Самы набліжаны да Лукашэнкі бізнэсовец. Шакуцін ад першых сваіх крокаў у бізнэсе пастанавіў быць як мага бліжэй да ўлады. Зрэшты, усё гэта вельмі адносна. Юрый Чыж таксама капаў бульбу і збіраў кавуны разам з кіраўніцтвам краіны, а ў выніку аказаўся ў СІЗА КДБ. Дарэчы, сам Шакуцін выхваляўся, што праверак супраць яго было ў дзесяць разоў болей, чым у Чыжа, але ніхто не знайшоў да чаго прычапіцца.

Адметны факт, што Шакуцін больш не з'яўляецца членам Савета Рэспублікі. Раней падчас звароту Лукашэнкі да народа і парламента менавіта мільянер Шакуцін задаваў самыя кампліментарныя пытанні. Адметна таксама, што ў спісе самых уплывовых бізнэсоўцаў краіны ад «Ежедневніка» Шакуцін апусціўся на восьмае месца.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1959 у вёсцы Вялікае Бабіна Аршанскага раёна. Закончыў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт па спецыяльнасці «хірургія». Працаваў загадчыкам хірургічнага аддзялення 10-й мінскай бальніцы, дырэктарам медцэнтра МТЗ. У якасці прэзідэнта прадпрыемства «Праммедінвест» займаўся пастаўкамі медыцынскага абсталявання. Старшыня рады дырэктараў ААТ «Амкадор» (з 2005), член Савета Рэспублікі (з 2008), старшыня Беларускай тэніснай федэрацыі (з 2012).

**«У мяне было імкненне ствараць новыя прадукты, заводы, тады я атрымліваю надзвычай вялікае задавальненне, атрымліваю той кайф, які патрэбен чалавеку, каб добра сябе адчуваць. Ніколі нікуды больш не пайду, ані ў дэпутаты, ані ў іншыя…»**

(чэрвень 2016)

# Усевалад Янчэўскі

34 (28)

Дырэктар Парка высокіх тэхналогій

Ідэалогіі ў Адміністрацыі прэзідэнта не засталося — пасады страцілі і Бузоўскі, і Янчэўскі. Апошні пад гэты шумок змог знайсці вельмі нават цікавую працу. Стваральнік «Акавіты» Хведар Караленка з гэтай нагоды адпісаўся, што не трэба нагнятаць сітуацыю: «Янчэўскі — далёка не дурань, як многія чамусьці думаюць, і разбіраецца ў тэме».

Звяртае ўвагу, што асабістую падзяку Янчэўскаму ў сваёй кнізе «Фінансавая дыета» пакінуў Кірыла Руды. Янчэўскага ён назваў сваім аднадумцам.

Адметна, што Усевалад быў у камандзе Лукашэнкі яшчэ на выбарах 1994 года. Тады яго называлі кар'ерыстам з кар'ерыстаў. Цяпер яго апісваюць як аднаго з найбольш прагрэсіўных і асцярожных чыноўнікаў.



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1976 у Барысаве. Скончыў юрыдычны факультэт БДУ (1988). Быў актыўным сябрам штаба Станіслава Шушкевіча падчас выбараў у Вярхоўны Савет XIII склікання. У сярэдзіне 1990-х узначаліў пралукашэнкаўскую арганізацыю моладзі «Прамое дзеянне», якая перарасла ў Беларускі патрыятычны саюз моладзі, які потым зліўся з Беларускім саюзам моладзі ў БРСМ. Быў дэпутатам палаты прадстаўнікоў (1996—2000). Адзін з наймаладзейшых чыноўнікаў найвышэйшага эшалона.

**«У нас ёсць усе перадумовы для таго, каб стаць IT-краінай»**

(сакавік 2017)

# Генадзь Давыдзька

Старшыня Белтэлерадыёкампаніі

Уплыў прадпрыемства, якое ўзначальвае Генадзь Браніслававіч, падае з кожным годам — БТ не можа канкураваць з расійскімі тэлеканаламі. Замест прафесіяналаў на тэлебачанне бяруць людзей ідэалагічна выверaных. Вось і прадукт атрымліваецца адпаведны. У ход зноў пайшлі прапагандысцкія фільмы, як у часы Азаронка. А сам Давыдзька штотыдзень у «Клубе рэдактараў» гнабіць іншадумцаў.

**«Прэзідэнт сказаў, што трэба павыкалупваць з булкі разынкі, то бок тых, хто не хоча дыялогу. Мне не спадабалася параўнанне з разынкамі. Я думаю, з булкі тараканаў трэба выкалупваць. Таму што гэты мілы вобраз разынак ну ніяк не падыходзіць да вось гэтых мярзотнікаў»**

(сакавік 2017)

35 (32)



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1955 у вёсцы Папоўка Сенненскага раёна. Скончыў Далёкаўсходні педагагічны інстытут мастацтваў (1977), Беларускую акадэмію мастацтваў (1991). Граў у Арэнбургскім і Магілёўскім абласных драмтэатрах, у Тэатры імя Янкі Купалы. Дырэктар Тэатра імя Янкі Купалы (1997—2004), дэпутат Палаты прадстаўнікоў (2004—2012). Старшыня Белтэлерадыёкампаніі (з 2010). Жанаты, мае дачку.

# Юрый Зісер

36 (41)

Заснавальнік tut.by

*Tut.by* — самы магутны рэсурс у беларускім інтэрнэце. Дзяржаўныя СМІ маюць куды большыя сродкі і магчымасці, але не могуць параўнацца з tut.by, ён застаецца флагманам, быць падобным да яго хочуць вельмі многія. І раздражнне ён не меншую колькасць людзей, зайздроснікі крычаць: «Трэба нацыяналізаваць tut.by!» А гэта якраз і ёсць вышэйшая адзнака ў працы сайта.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1960 у Львове. Скончыў Паўночна-Заходні політэхнічны інстытут у Пецярбургу. Працаваў інжынерам-праграмістам у Львове (1982—1986), інжынерам у НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі ў Мінску (1986—1990), у кааператыве ў Расіі (1990—1991). Генеральны дырэктар і ўласнік УП «Надзейныя праграмы» (з 1992).



TWITTER.COM/LESSPRIT

**«Па-мойму, дыскрэдытацыя любога чалавека, прадпрыемства, дзяржаўнага органа пачынаецца з публічнай адмовы прызнаваць свае памылкі і барацьбой з тымі, хто на іх паказвае. А рэвалюцыі, каляровыя або чорна-белыя, адбываюцца тады, калі народу гэта надакучвае»**

(снежань 2016)

# Аляксандр Машэнскі

37 (36)

Уласнік кампаній «Санта-Брэмар» і «Савушкаў прадукт»

Гэты бізнэсмен усё часцей з'яўляецца ў кампаніі Аляксандра Лукашэнкі, нават разам былі падчас адпачынку кіраўніка дзяржавы ў Сочы. Уласнік «Санта-Брэмар» — галоўны бізнэсмен Брэстчыны, стварае там рабочыя месцы. Машэнскі быў сярод давераных асоб Лукашэнкі на апошніх прэзідэнцкіх выбарах, ён заўсёды спрабуе заручыцца падтрымкай папулярных людзей. У вольны ад асноўнай працы час Аляксандр Машэнскі кіруе федэрацыяй веславання.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наўрад ці Еўрасаюз будзе для нас ключавым рынкам збыту»**

(ліпень 2012)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1970 у Брэсце. Скончыў механіка-матэматычны факультэт БДУ. Уласнік кампаній «Санта-Брэмар» і «Савушкаў прадукт». Старшыня Беларускай федэрацыі веславання. Ганаровы консул Ісландыі ў Беларусі. Жанаты, мае двух дачок.

# Сяргей Румас

Старшыня праўлення Банка развіцця

Ружавашчокі шматдзетны бацька Сяргей Румас выклікаў станоўчыя эмоцыі, калі працаваў ва ўрадзе. Румас некалькі разоў адважваўся казаць тое, што думае. Настойваў на рынкавых рэформах. З такімі аксакаламі, як Пракаповіч, у той момант цягацца яму было немагчыма. У выніку Румаса адправілі ў высылку ў Банк развіцця. Здаецца, там чыноўнік пачувае сябе дастаткова камфортна. Ён перастаў публічна змагацца з ветракамі. Цяпер Румас больш засяроджаны на футбольных справах, але без вялікага поспеху. Зборная Беларусі прабівае дно, не атрымаўшы ніводнай перамогі ў пяці матчах адбору да чэмпіянату свету — 2018, усё меней людзей ідзе на стадыёны, і нават БАТЭ не змог выйсці ў групавы этап еўракубкаў.

38 (39)



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Фанаты? У навінах жа не пішуць, што краму абрабаваў, скажам, член БРСМ ці былы міліцыянер»**

(снежань 2015)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1969 у Гомелі. Скончыў Яраслаўскае вышэйшае вайсковае фінансавае вучылішча (1990) і Акадэмію кіравання (1995). Працаваў у Дзяржбанку СССР, камерцыйных банках Беларусі. Намеснік старшыні праўлення «Беларусбанка» (2002—2005), старшыня праўлення «Белаграпрамбанка» (2005—2010), віцэ-прэм'ер (2010—2012), старшыня праўлення Банка развіцця (з 2012). Старшыня Беларускай федэрацыі футбола. Жанаты, чацвёра сыноў.

# Анатоль Лапо

Старшыня Памежнага камітэта

39 (-)

Леанід Мальцаў, які доўгі час быў чалавекам, гатовым закрыць сабой самыя розныя пасады, сышоў на пенсію. Яго змяніў Анатоль Лапо — прафесійны пагранічнік, які зрабіў кар'еру на Смаргонскай заставе. Памежны камітэт — гэта тое ведамства, якое мае вельмі мала нараканняў. Пагранічнікаў намуштравалі працаваць ветліва і хутка.

Зрэшты, і яны частка сістэмы — як у выпадку з той машынай, што нібыта спрабавала збіць пагранічныя слупы на ўкраінска-беларускай мяжы. Потым памежнікам давялося прызнаць, што машына гэта не ехала з тэрыторыі Украіны. Але пад тую карцінку ў турмы пасадзілі іншых, невінаватых людзей.



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1963 у вёсцы Кулакоўка Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. У 1986 скончыў Галіцынскае Вышэйшае пагранічнае ваенна-палітычнае вучылішча КДБ СССР і ў 2001— Акадэмію Федэральнай пагранічнай службы Расіі. Ад 2004 да 2008 кіраваў Смаргонскім пагранічным атрадам. Ад 29 жніўня 2008 быў прызначаны на пасаду намесніка старшыні Дзяржаўнага пагранічнага камітэта — начальніка галоўнага ўпраўлення матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння. Ад снежня 2016 — кіраўнік Памежнага камітэта.

**«Беларусь будзе надзейным гарантам памежнай бяспекі ў рэгіёне»**

(сакавік 2016)

# Мікалай Корбут

40 (-)

Памочнік прэзідэнта

Назва пасады гучыць не надта прэтэнцыёзна, але ўсе памочнікі «маюць доступ да цела», а гэта пры аўтакратыі значыць многа.

Корбут — гэта чалавек, які адчыняе дзверцы машыны Лукашэнкі, калі той прыязджае некуды з візітам. Корбут узначальвае канцылярыю кіраўніка Беларусі. Можна сказаць, што ён мае штодзённы доступ да асобы нумар №1 у краіне. Яны разам капалі бульбу, сустракалі Стывена Сігала.

Да гэтага Корбут доўгі час узначальваў Кіраўніцтва справаў прэзідэнта, іншымі словамі, быў «завгаспам». Над ім вісела пагроза крымінальнай справы, але Корбут змог без наступстваў для сябе выплысці з гэтай сітуацыі. У снежні Лукашэнка пашырыў паўнамоцтвы Корбута.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1963 у вёсцы Ужа Капыльскага раёна. У 1988 скончыў Наргас. Працаваў інструктарам, вядучым спецыялістам Мінскага райкама прафсаюза работнікаў АПК, галоўным эканамістам фінансава-эканамічнага аддзела Камітэта па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванні пры Савеце Міністраў. У 1994—2001 — начальнік упраўлення па абслугоўванні дыпламатычнага корпуса і афіцыйных дэлегацый «Дыпсэрвіс» Кіраўніцтва справаў прэзідэнта. У 2001—2009 — першы намеснік кіраўніка спраў прэзідэнта. У 2009—2013 — кіраўнік спраў прэзідэнта.



**«Кожнае дзіцё павінна быць акружанае ўвагай і клопатам»**

(снежань 2011).

# Мікалай Лукашэнка

41 (42)

Малодшы сын кіраўніка краіны

Хлопчыку сёлета будзе 13 гадоў. Гэта ўжо не той узрост, у якім кіраўнік краіны можа вадзіць за руку меншага сына. Адпаведна, Мікалай стаў радзей з'яўляцца на тэлеканалах. Вядома, што Коля ездзіў нядаўна з бацькам у Егіпет і Судан, глядзеў на піраміды ў даліне Гіза, але ў афіцыйныя хронікі не трапляў. Не было яго і падчас параду на Дзень Рэспублікі. Затое Коля ўсё часцей выходзіць у інфармацыйную прастору самастойна. То ён перадае ў дом састарэлых кавуны: то дае першае вялікае інтэрв'ю, у якім паказвае, як грае на фартэпіяна, корміць коней, катаецца на лыжах.



**«Можа быць, стаў бы доктарам: гэта добра — дапамагаць людзям»**

(студзень 2017)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 2004. Вучыцца ў элітнай школе ў Астрашыцкім Гарадку.

# Сяргей Гурулёў

42 (35)

Старшыня Вайскова-прамысловага камітэта

Сістэмы ракетна-залпавага агню «Паланэз», распрацаваныя сумесна з кітайцамі, — галоўнае дасягненне беларускага ВПК. Першыя баявыя пускі прайшлі летась. Расейцы не даваяраюць беларусам свае вайсковыя тэхналогіі, на што некалькі разоў наракаў Аляксандр Лукашэнка, а вось кітайцы пайшлі на супрацу. Звяртае ўвагу, што ў Пекін з кіраўніком краіны лятаралі менавіта Раўкоў і Гурулёў. У гэтым годзе далёкасць дзеяння «Паланэзаў» давядуць да 300 кіламетраў. Таксама ўжо сёлета ў вытворчасць павінны пайсці беларускія гранатамёты. Раней усё кіраўніцтва ВПК складалі не ўраджэнцы Беларусі, цяпер жа ў намесніках Гурулёва толькі беларусы.

**«Асноўнымі нашымі партнёрамі застануцца Расія і Кітай»**

(студзень 2016)



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1953 у г.п. Алавяная Чыцінскай вобласці (Расія). Генерал-лейтэнант (2001). Скончыў Благавешчанскае вышэйшае танкавае каманднае вучылішча імя Мерацкова (1974), Вайсковую акадэмію бранятанкавых войскаў імя Маліноўскага, Вайсковую акадэмію Генштаба Узброеных сіл Расіі (1999). З 1986 у Беларускай вайсковай акрузе. З 1997 начальнік штаба — намеснік камандзіра, з 2000 камандзір 28-га армейскага корпуса. У 2001 быў начальнікам Галоўнага штаба, з канца 2001 — начальнік Генеральнага штаба Узброеных сіл — першы намеснік міністра абароны Беларусі. Ад 2009 — старшыня Вайскова-прамысловага камітэта.

# Мітрапаліт Павел

43 (40)

Прадстаяцель БПЦ, мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі

На кволай надзеі аб самакіраванасці Беларускай праваслаўнай царквы пастаўлены крыж. Прычым ад моманту ўзнікнення ідэі да яе поўнага забыцця прайшло не больш за месяц. БПЦ мае меншую самастойнасць нават за зусім маламікія праваслаўныя цэрквы Латвіі, Чэхіі ці Польшчы. Але кіраўніка царквы, якога да нас даслалі з Разані, такая сітуацыя задавальняе. Хаця вырастае ўсё болей святароў, якія не атаясамліваюць сябе з Расіяй, роля царквы з кожным годам падае. БПЦ паранейшаму валодае вялікай імперыяй, але паства ад гэтага не расце.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Калі мы кажам і патрыярх кажа пра «русский мир», то тут няма ніякай палітыкі»**

(студзень 2017)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1952 у Карагандзе ў сям'і рабочых. Адслужыў у арміі, трохі папрацаваў слесарам. У 1973—1976 вучыўся ў Маскоўскай духоўнай семінарыі. Ад 1979 працаваў, як і Філарэт, у Аддзеле замежных царкоўных зносінаў, прычым на асабліва важным кірунку — у Ізраілі. Ад 1992 да 1999 быў епіскапам Зарайскім, які кіраваў патрыяршымі прыходамі ў ЗША і часова ў Канадзе. У 1999 прызначаны епіскапам Венскім і Аўстрыйскім. У 2001 годзе ўзведзены ў сан архіепіскапа з тытулам Венскі і Будапешцкі. У 2011 стаў мітрапалітам Разанскім. У снежні 2013 пераведзены прадстаяцелем БПЦ.

# Ігар Маршалаў

44 (-)

Кіраўнік Дэпартамента фінансавых расследаванняў

Дзейнасць ДФР — адна з вялікіх крыніц папаўнення бюджэту. Задача ведамства — выяўленне лжэпрадпрымальнікаў, махляроў, неплацельшчыкаў падаткаў. Маршалаў хваліцца, што практычна ўсе праверкі ДФР аказваюцца выніковымі. Але пры гэтым ён называе лічбу, што толькі 1,5% праверак у краіне ад агульнай колькасці праводзіць КДК. Што тычыцца самога Маршалава, то яму 45 гадоў, ён са Шклова, зямляк Лукашэнкі.

**«У барацьбе з ілжэпрадпрымальніцтвам выкарыстоўваюцца ўсе сродкі і метады»**

(ліпень 2015)



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1972 у Шклове. Скончыў Вальнскае вайсковае вучылішча (1993), Беларускі камерцыйны ўніверсітэт кіравання (1998). Службу пачаў у 1993 інспектарам аддзела падатковых расследаванняў па Мазыры. Праходзіў службу на розных пасадах у Дзяржаўным камітэце фінансавых расследаванняў па Гомельскай вобласці, упраўленні Дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК па Гомельскай вобласці, Дэпартаменце фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю. ДФР узначаліў у жніўні 2013 года.

# Іван Галаваты

Генеральны дырэктар «Беларуськалія»

45 (79)



«Беларуськалій» — адзін з камянёў, на якіх стаіць беларускі дзяржбюджэт. Больш за 90% здабытага ідзе на экспарт. Дзе яшчэ Беларусь можа пахваліцца такімі вынікамі? Што тычыцца Івана Галаватага, то ён у фаворы ў кіраўніцтва краіны. Быў адным з трыццаці, хто ўвайшоў у давераныя асобы Аляксандра Лукашэнкі на апошніх выбарах. Летась яго прызначылі ў Савет Рэспублікі.

У «Беларуськаліі» круцяцца вялізныя грошы.

Цікава, што летась Галаваты разам з кіраўнічкай «Беларускай калійнай кампаніі» Аленай Кудравец наведвалі ЗША, былі ў тамтэйшых Сенаце і Палаце прадстаўнікоў. Па звестках з адкрытых крыніц, беларускія калійшчыкі патрацілі больш за паўмільёна даляраў на лабіраванне сваіх інтарэсаў у ЗША.

**«З мэтай утрымання лідарскіх пазіцый як аднаго з найбуйнейшых вытворцаў калію ў свеце наша прадпрыемства рэалізуе больш за восем дзясяткаў будаўнічых праектаў»**

**Аб’ектыўка**

Нар. 15 чэрвеня 1976 года ў мястэчку Пагост Салігорскага раёна. Скончыў Дзяржаўны горны інстытут імя Г.В.Пляханава (тэхнічны ўніверсітэт) у г. Санкт-Пецярбургу. Працаваў начальнікам горнага аддзела РУП «ВА Беларуськалій», намеснікам генеральнага дырэктара па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні — начальнікам упраўлення матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, галоўным інжынерам ААТ «Беларуськалій». Генеральны дырэктар ААТ «Беларуськалій».

# Віктар Кіслы

Заснавальнік анлайн-гульні «Свет танкаў»

46 (81)



Першы беларускі даляравы мільярдэр другі год запар узначальвае спіс самых багатых беларускіх бізнэсоўцаў. Кіслы быў энтузіястам, які ўкладваўся ў камп’ютарныя гульні, калі ніхто не верыў, што яны будуць прыносіць настолькі вялізныя грошы. Выручка *Wargaming* за 2015 год склала больш за паўмільярда даляраў!

Кампанія актыўна прасоўвае свой прадукт на рынкі Амерыкі, Азіі, Еўропы. Пры гэтым галоўны офіс кампаніі ўсё ж зарэгістраваны на Кіпры, а не ў Беларусі.

Паказальна, што самым багатым чалавекам краіны стаў не той, каму давалі доступ да гандлю нафтай, да будаўніцтва, гіпермаркетаў, а чалавек са сферы, якая яшчэ зусім нядаўна лічыліся забаўкай.

Лукашэнка прызнаваўся, што нават ягоны сын Коля завісаў у «танчыках».

**«Я люблю «танчыкі» ўсёй душой. На маім асабістым рахунку 10 000 баёў. Я чалавек не азартны, але World of Tanks мяне зацягвае. У сярэднім я праводжу ў танкавых баталіях па 50 гадзін на месяц»**

(люты 2016)

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1976 у Мінску. У 1999 скончыў фізічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «фізік-лазершчык». У 1998 годзе заснаваў кампанію Wargaming.

# Уладзімір Дворнік

47 (66)

Старшыня Гомельскага аблвыканкама



HOINIKI.BY

Чаму Дворнік аказаўся ў рэйтынгу вышэй за калег з астатніх абласцей, калі не лічыць Шапіру? Бо найдаўжэй захоўвае сваю пасаду — ужо сем гадоў.

Пры яго «губернатарстве» ў Гомелі хапала карупцыйных скандалаў, арыштоўвалі старшыню Гомельскага гарвыканкама Віктара Піліпца.

Гомельская вобласць — гэта не самы просты рэгіён краіны, асабліва ўскладнены Чарнобылем. Але сам горад Гомель — другі па магутнасці ў краіне пасля Мінска.

Не так даўно чыноўнік атрымаў з рук Лукашэнкі ордэн Айчыны III ступені.

**«Для павышэння дабрабыту нашых людзей трэба засяродзіцца на працы рэальнага сектара эканомікі»**

(ліпень 2016)

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1963 у вёсцы Ровенская Слабада Рэчыцкага раёна. Закончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут. Працаваў трактарыстам, ветэрынарам, намеснікам старшыні калгаса, дырэктарам саўгаса, старшынёй Мазырскага райвыканкама. Старшыня Гомельскага аблвыканкама (ад 2010).

# АркадзьДобкін

Старшыня рады дырэктараў EPAM Systems

48 (80)



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Узлёт IT-шнікаў. Упершыню адразу двое прадстаўнікоў гэтай галіны трапілі ў топ-50 нашага рэйтынгу.

Менавіта Добкін некалі на пару з Цапкалам быў сярод тых, хто лабіраваў ідэю стварэння Парка высокіх тэхналогій у Мінску — аднаго з найбольш удалых праектаў у нашай краіне за апошнія дзесяцігоддзі. Сёння EPAM Добкіна мае мільённыя абароты. «Каб гэты цягнік не спыняўся, яму не трэба перашкаджаць», — казаў Добкін.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1960 годзе ў Мінску. Вучыўся ў школе № 50 з матэматычным ухілам. У 1983 скончыў Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт па спецыяльнасці «інжынер электратэхнікі». У 1991 годзе эміграваў у ЗША. У 1993 годзе заснаваў EPAM Systems.

**«У краіне сярэдні заробак ужо меншы за 400 даляраў, а ў нас — большы ў 4—5 разоў»**

(верасень 2016)

# Мікалай Статкевіч

Палітык, былы палітвязень

49 (45)



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У 2015 годзе Статкевіча былі вымушаныя вызваліць з турмы, але так і не прымусілі напісаць прашэнне аб памілаванні. Ён быў гатовы сядзець за свае перакананні, колькі спатрэбіцца. У зняволенні аўтарытэт Статкевіча толькі рос, але і на волі ён яго не разгубіў, менавіта на яго БТ робіць паклёпніцкія рэпартажы. Экс-кандыдат у прэзідэнты першай справай пачаў арганізоўваць акцыі пратэсту ў цэнтры Мінска, наадрэз адмаўляўся хадзіць на Бангалор. Статкевіч мае характар, ён так і не здолеў збудаваць кааліцыю з іншымі апазіцыйнымі палітыкамі, застаецца адзіночкай. У адзіночку ён браў на сябе адказнасць за Дзень Волі, але напярэдадні яго змясцілі на трое сутак у СІЗА КДБ. Новыя пратэсты ён анансуе на 1 і 9 мая.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1956 у вёсцы Лядна Слуцкага раёна, належыць да старадаўняга праваслаўнага шляхецкага роду. Скончыў Мінскае вышэйшае інжынернае зенітна-ракетнае вучылішча (МВІЗРВ) СПА. Абараніў кандыдацкую дысертацыю і выкладаў у МВІЗРВ. Кандыдат тэхнічных навук, падпалкоўнік запасу. 20 жніўня 1991 публічна выступіў супраць путчу ў Маскве. Тады ж абвясціў аб стварэнні Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Мікалай Статкевіч быў адным з кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах у 2010. Яго арыштавалі ў дзень Плошчы — 19 снежня 2010. Асуджаны на 5,5 года зняволення. У адрозненне ад некаторых іншых кандыдатаў, не падпісаў прашэння аб вызваленні.

**«У мяне ёсць пачуццё адказнасці за лёс нашай нацыі, і гэта адзін з самых моцных матываў ва ўсім, што я раблю»**

(жнівень 2016)

# Павел Тапузідзіс

Уласнік «Тытунь-Інвест» і «Кароны»

50 (47)



Бізнэсоўца лічаць адным з самых багатых людзей краіны. Сваю імперыю ён пабудаваў на вырабе цыгарэт — дзялянцы, куды «чужых» не дапускаюць. А што ж Тапузідзіс? Кожныя выбары ён узначальвае ўчастак для галасавання ў мінскім мікрараёне Сухарава.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1956 у Грузіі. Мае грэчаскія карані. Пачаў бізнэс на вытворчасці цацачных самалёцікаў. У Беларусі арганізаваў кааператыў па выпуску пахавальных вянкоў, пасля заняўся вытворчасцю цыгарэт. Уласнік кампаніі «Тытунь-Інвест», сетак гіпермаркетаў «Карона» і «Карона-Тэхна», гатэля «Робінсан Клаб». Жанаты, мае сына.

**«Мая задача — зрабіць усё, каб дзясяткі тысяч работнікаў працавалі спакойна, атрымлівалі два разы на месяц зарплату»**

(кастрычнік 2015)

# Другая паўсотня: Калінкіна і Марзалюк

Першая 50-ка рэйтынгу складаецца амаль суцэльна з найвышэйшых дзяржаўных асоб, сілавікоў і блізкіх да ўлады мультымільянераў. Толькі 6 асобаў складаюць выключэнне з гэтага правіла: выбітныя дзеячы культуры Алексіевіч і Міхалок, стваральнік унікальнага партала Зісер, бізнэсоўцы з глабалізаванай IT-сферы Кіслы й Добкін ды апазіцыйны палітык Статкевіч.

У другой паўсотні традыцыйна сустракаецца больш людзей з розных сегментаў грамадства.

Фрустрацыя на выбарах 2015 года прывяла да таго, што з апазіцыйных палітыкаў, апроч Статкевіча, у спіс змог патрапіць толькі **Анатоль Лябедзька** (№94), а таксама цяпер зняволены цяслярр **Зміцер Дашкевіч** (№85). Рэйтынг пачыналі складваць яшчэ да хвалі пратэсту, што пракацілася па краіне ў сакавіку. Таму тэарэтычна нехта яшчэ з нязгодных з уладай мог быць тут прадстаўлены.

**Іосіф Сярэдзіч** і **Святлана Калінкіна** ў мінулым рэйтынгу ішлі ў звязцы па «Народнай Волі». За гэты час Калінкіна пакінула газету, занялася інтэрнэт-праектамі,




Рыгор Кісель.

а таксама аўтарскай праграмай на «Белсаце». На жаль, гэта негатыўна паўплывала на пазіцыі абаіх прадстаўнікоў журналісцкага цэху.

Дарэчы, звяртае ўвагу, што сёлета ніхто не ўключыў у свае спісы рэдактарку сайта «Хартыя-97» **Наталлю Радзіну**, хаця мінулы раз яна ўваходзіла ў першую палову рэйтынгу. Магчыма, адбілася падзенне ўплыву партала. Звяртае ўвагу і абсалютная адсутнасць **Зянона Пазняка**, хаця папярэднія гады ён згадваўся.

У другой палове прадстаўлены цэлы россып людзей, якіх можна называць блізкімі да Аляксандра




Зміцер Дашкевіч.

Лукашэнкі: сябар юнацтва, а пасля старшыня Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Канаплёў** (№65), трэнер па тэнісе **Сяргей Цяцерын** (№72), кіраўніца лечкамісіі **Ірына Абельская** (№74), хакейны трэнер **Міхаіл Захараў** (№81).

Чамусьці сёлета было літаральна дзве згадкі кіраўніка Беларускай федэрацыі хакея **Ігара Рачкоўскага** — і гэты чалавек, якому раней шмат хто прадказваў важныя пасады, выпаў спісу.

У сотню прайшоў яшчэ адзін музыка — **Лявон Вольскі** (№58), які нядаўна запісаў адзін з найбольш цэльных альбомаў за час творчасці.

Да жаночага абліčча беларускага спорту ўжо не трэба звыкацца — гэта брэнд. **Вікторыя Азаранка** на 55-м радку (у яе больш папулярны ў свеце спорт), а **Дар'я Домрачава** — 76-я. А вось адзінага нашага алімпійскага чэмпіёна Рыа **Уладзіслава Ганчарова** эксперты праігнаравалі.

Асобна варта адзначыць, што, нягледзячы на адстаўкі, пакуль яшчэ засталіся ў сотні **Леанід Мальцаў** (№54) і **Рыгор Кісель** (№61). Але выглядае, што гэта ўжо іхняя лебядзіная песня, і ў топ-100 праз два гады яны ўжо не застануцца. Затое па старой памяці ўсё яшчэ ўключаюць у спісы **Сяргея Сідорскага** (№98). Колькі ўжо гадоў экс-прэм'ер не пры справах, а яго не забываюць.

Крыху нечаканым было, што ў топ так і не трапілі дэпутаткі палаты ад незалежнага грамадства — **Алена Анісім** і **Ганна Канапацкая**. А вось **Ігар Марзалюк**, які прымільгаўся па ТБ, сярод тых, хто замыкае спіс.

**Зміцер Панкавец**




Дар'я Домрачава.




Святлана Калінкіна.




Ігар Марзалюк.




Лявон Вольскі.

## Дзе нарадзіліся ўплывовыя беларусы?




Расія — 7
Украіна — 5
Казахстан — 3
Грузія — 2
Германія — 1

Месцы нараджэння 4 асобаў невядомыя.

# Беларусы на службе ЦРУ. AEQUOR: група Вострыкава

Піша **Антон Рудак**.

*Працяг. Пачатак у №2 за 2017.*

ЦРУ пачало рыхтавацца да аперацыяў у БССР яшчэ ў 1949 годзе. Летам 1951-га, калі быў распачаты праект AEQUOR, Барыс Рагуля прапанаваў амерыканскай разведцы скласці спіс з 200 маладых беларусаў, што пражывалі ў краінах Заходняй Еўропы, для падрыхтоўкі на выпадак амерыканска-савецкай вайны. Інфармацыю пра меркаваных кандыдатаў мусілі сабраць дзесяць беларусаў студэнтаў Лювэнскага ўніверсітэта ў Бельгіі.

Некаторых з абраных кандыдатаў меркавалася рыхтаваць для неадкладнага выкарыстання за жалезнай заслонай у якасці разведчыкаў. Амерыканцы ўскладалі вялікія надзеі на ўсталяванне сувязі з «беларускім партызанскім рухам» у БССР, які стварыў бы адзіны фронт разам з літоўскім падпольлем на поўначы і ўкраінскім — на поўдні.

Іншым важным кірункам супрацоўніцтва ЦРУ з беларусамі ў межах праекта AEQUOR была падтрымка выдання газеты «Бацькаўшчына», якая мусіла, паводле задумы амерыканцаў, праводзіць лінію «беларускага нацыяналізму, які, не нацкоўваючы супраць расейцаў альбо федэрацыі з імі, запатрабуе, каб Беларусі была дадзеная мясцовая аўтаномія, кіраваная тутэйшымі, вольна абранымі людзьмі, а не мяшанкай расійцаў з грузінамі». У ліпені 1951 года ў справаздачы ЦРУ адзначалася: «Пра рэальную сілу беларускага нацыяналізму вядома мала, але нават калі ён не такі моцны, як ва Украіне, можа аказацца, што гэтая рэспубліка [БССР] з'яўляецца дастаткова стратэгічна важнай пляцоўкай, каб варта было культываваць гэты нацыяналізм».

Першым агентам, падрыхтаваным у межах праекта AEQUOR, быў Янка Філістовіч (CAMPOSANTO 1). На жаль, у апублікаваных файлах пакуль не знайшлося звестак аб яго падрыхтоўцы, а вось аб групе, у склад якой уваходзіў памерлы адносна нядаўна Цімох Вострыкаў (1922–2008), захавалася мноства цікавай інфармацыі. Як вядома, у канчатковую групу, акрамя Вострыкава, уваходзілі яшчэ трое чалавек. Але былі і іншыя кандыдаты — першапачаткова склад групы мусіў быць іншым.

### Дэсантнік Мікола Абрамчык

Заняткі праходзілі ў Заходняй Нямеччыне, у баварскім горадзе Бад-Вэрысхофен. У верасні 1951 года, яшчэ да дэсантавання Філістовіча, быў адхілены ад удзелу ў праекце кандыдат з крыптанімам CAMPOSANTO 3, які паказаў кепскія вынікі падчас тэставанняў. Рагуля выказаў меркаванне, што гэты чалавек, магчыма, прыхоўвае інфармацыю аб «сувязях з СС» падчас вайны, аднак пазней запэўніў амерыканцаў, што цалкам яму давярае, як і прэзідэнт Абрамчык. Як адзначана ў рапарце супрацоўніка ЦРУ, Рагуля выявіў непрыхаванае здзіўленне, калі яму патлумачылі, што аднага іх даверу недастаткова, каб лічыць кандыдата вартым. Тым цікавей успрымаецца гэтая інфармацыя, калі з далейшых дакументаў робіцца вядома, што крыптанім CAMPOSANTO 3 належаў... Міколу Абрамчыку — пляменніку і падвойнаму цёзку прэзідэнта Рады БНР.



Сябры Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі, 1949: Аляксандр Надсан, Пётра Сыч, Якуб Амор (Кастусь Кадушка), Міхась Булыга.

Напачатку 1952-га, калі ў Бад-Вэрысхофен прыехалі Цімох Вострыкаў (CAMPOSANTO 6) і Міхал Кальніцкі (CAMPOSANTO 4), там ужо праходзіў навучанне Якуб Амор (Кастусь Кадушка, CAMPOSANTO 2). У школе курсанты навучаліся пад імёнамі Джым (Амор), Джо (Кальніцкі) і Карл (Вострыкаў). Крыху пазней да іх далучыліся паслядоўна Аляксандр Шацько (Пол, CAMPOSANTO 7) і Уладзімір Грамяка (Эрык, CAMPOSANTO 5). Праграма падрыхтоўкі агентаў прадугледжвала фізічныя практыкаванні, скачкі з парашутам, навучанне радыёсувязі, выжыванню ў палявых умовах, тапаграфіі, самаабароне, падробцы дакументаў, фатаграфіі, кіраванню аўтамабілем і г.д. Сярод навучальных дапаможнікаў былі савецкія «Спадарожнік партызана» (1942) і «Даведнік падарожніка і краязнаўца».

**Амерыканцы з абурэннем зазначалі, што Амор прапаноўваў уключыць у кожнае радыёпаведамленне фразу «Да ўраду Беларускай Народнай Рэспубліцы», каб «ніхто не здолеў абвінаваціць яго ў тым, што ён з'яўляўся амерыканскім агентам»**

### Я б з ім у разведку не пайшоў

Якуб Амор, які быў лідарам групы і меркаваным кіраўніком дэсанту, лічыў, аднак, што ўсе заняткі не маюць сэнсу, а адзінае, чым амерыканцы могуць дапамагчы хлопцам, — гэта даставіць групу самалётам на радзіму. Лекцыі ўдзельнікам групы чыталі, між іншага, чалавек, які «некалькі гадоў жыў у Сібіры на нелегальным становішчы», а таксама супрацоўнік з ліку прыхільнікаў расійскага НТС (Народна-працоўнага саюза) — апошні выкладаў курс аб савецкім побыце. Штовечар курсанты слухалі радыёперадачы з СССР і чыталі савецкую прэсу.

Для «неадкладных аперацый» імкнуліся вербаваць маладых хлопцаў, якія не былі абцяжараныя працай, навучаннем ці стасункамі з дзяўчатамі — але бывалі і выключэнні. У снежні 1951 года Якуб Амор папрасіў спаткання са сваёй нявестай-немкай, а калі яму было адмоўлена, заявіў, што мае намер сустрэцца з ёю незалежна ад меркавання амерыканцаў, бо гэта ягоная асабістая справа.

Здараліся праблемы і іншага кшталту: так, Аляксандр Шацько пасля першага тыдня навучання адмовіўся скакаць з парашутнай вышкі — допыты ягоных калегаў паказалі, што ён, хутчэй за ўсё, «проста збаяўся». У выніку хлопец быў адпраўлены дадому ў Брытанію. Ягонае месца заняў Уладзімір Грамяка, хаця перш з гэтым агентам таксама ўзніклі праблемы — ён быў перадумаў дэсантавацца, заявіўшы, што будзе больш карысны падчас вайны, але ў выніку яго ўдалося пераканаць не адракацца першапачатковай задумы. Куратары адзначалі, што Грамяка з цяжкасцю інтэгруецца ў групу — магчыма, з той прычыны, што ён быў прыхільнікам не Рады БНР, а апазіцыйнай да яе арганізацыі (Хрысціянскага аб'яднання беларускіх работнікаў).

### Са «шмайсерамі» ў руках

Група мусіла быць дэсантаваная ў красавіку, на працягу тыдня правесці разведку мясцовасці і цягам мая збудаваць у Налібоцкай пушчы базавае сховішча. Два агенты заставаліся для ўтрымання базы і радыёсувязі, два — накіроўваліся на разведку ў найбліжэйшыя гарады (Ліда, Маладзечна, Навагрудак). Адзін з іх мусіў там легалізавацца, асесці і пачаць ужывацца ў сваю новую ролю, не выяўляючы ніякай асаблівай актыўнасці, а другі — падтрымліваць сувязь паміж гэтым рэзідэнтам і базай (якая ў той час павінна была зьмяніць дыслакацыю). У кастрычніку групе мелі быць перакінутыя матэрыялы для далейшай дзейнасці і два новыя агенты.

Дэсантнікі былі ўзброеныя пісталетамі-кулямётамі MP 40 і пісталетамі з глушыльнікам. Кальніцкі заявіў, што хоча ўзяць з сабою як мага болей патронаў — колькі яго ні пераконвалі, што галоўнай задачай місіі не з'яўляецца забойства найбольшай колькасці савецкіх вайскоўцаў, пазней удалося высветліць, што ён схаваў некалькі соцень патронаў у сваёй вопратцы. У дакументах таксама можна знайсці поўны спіс экіпіроўкі дэсанту, у якую, між іншага, мусілі ўваходзіць партатыўны тэлескоп, мініяцюрная шахматная дошка і дзве калоды ігральных картаў.

### «Ты з Заходняй, я — з Усходняй...»

Як адзначалася ў справаздачы аб асабістых якасцях агентаў ад сакавіка 1952 года: «Меркаваць аб поспеху аперацыі складана. Самая цяжкая задача — пераканаць агентаў, што наш план падрыхтоўкі варты ўвагі. Усе яны мараць вярнуцца на радзіму (а пад «радзімай» тут насамрэч маецца на ўвазе іх родная вёска)». У склад групы ўваходзілі як «заходнікі», так і «ўсходнікі»: калі першыя былі добра знаёмыя з раёнам дэсантавання, то другія лепей арыентаваліся ў савецкіх рэаліях.

Меркаваны лідар групы, Якуб Амор, паходзіў з Заходняй Беларусі, але, хаця быў знаёмы з савецкай рэчаіснасцю, па сведчанні супрацоўнікаў ЦРУ, «кажучы словамі Оруэла, — не адчуваў яе нутром».

«Савецкім» беларусам быў Кальніцкі — так, калі курсантам прапанавалі напісаць эсэ аб «амерыканскім імперыялізме» з савецкага пункту погляду, ягоны вынік быў прызнаны найлепшым. Адзначалася таксама, што яго дзяцінства прайшло ў пушчах і балотах Палесся, таму ён валодае базавымі навыкамі выжывання і не патрабуе інтэнсіўнай падрыхтоўкі ў гэтым кірунку.

Грамяка паказваў добрыя вынікі дзякуючы свайму досведу змагання ў шэрагах французскага Супраціву падчас Другой сусветнай.

У характарыстыцы Вострыкава адзначалася, што ён з'яўляецца па натуры «чалавекам дзеі», рамантыкам і, падобна, жадае зрабіцца героем.

Найлепшыя вынікі ў фізічным плане паказваў Вострыкаў, Амор меў праблемы з-за курэння, а Кальніцкі часта атрымліваў вывіхі падчас фізічных практыкаванняў.

Неўзабаве група скарацілася да трох чалавек — у сярэдзіне красавіка на ўласнае жаданне быў адхілены ад удзелу ў праекце Уладзімір Грамяка, які не давяраў Якубу Амору як лідару і не хацеў выпраўляцца з ім на небяспечную місію.

Выявілася таксама, што Міхал Кальніцкі, хаця і зразумеў, што яго рыхтуюць толькі як радыстадублёра, намагаўся, аднак, як найлепей засвоіць навыкі радыёспрэвы, бо спадзяваўся, што такім чынам здолее разам з Вострыкавым дзейнічаць аўтаномна ад Амора.

### Мая хата з краю

Амор паводзіўся занадта незалежна ды самаўпэўнена і быў галоўнай прычынай галаўнога болю як для ўдзельнікаў групы, так і для інструктараў. Напрыклад, ён настойваў на тым, каб Рагуля дамогся ад ЦРУ дазволу выкарыстоўваць у радыёпаведамленнях асобныя паролі для Рады БНР, бо хацеў быць упэўненым, што амерыканцы перадаюць эмігрантам усе паведамленні, не прыхоўваючы ніякай інфармацыі. Амерыканцы з абурэннем зазначалі, што ён прапаноўваў нават уключыць у кожнае радыёпаведамленне фразу «Да ўраду Беларускай Народнай Рэспубліцы», каб «ніхто не здолеў абвінаваціць яго ў тым, што ён з'яўляўся амерыканскім агентам».

Тым не менш пры канцы навучання, увесну 1952 года, курсанты паспяхова выканалі план шасцідзённых вучэнняў у палявых умовах на палігоне Графэнвор, адпрацаваўшы на практыцы ўсе дзеянні групы пасля дэсанту. Аднак з набліжэннем часу дэ-

сантавання рабілася ўсё больш відавочным, што курсанты не маюць асаблівага жадання выконваць план аперацыі. Вострыкаў і Кальніцкі планавалі вярнуцца ў свае вёскі, а Амор хацеў асесці ў адным з заходнебеларускіх гарадоў — нікому з дэсантнікаў не падабалася ідэя жыць у зямлянцы сярод лесу.

### «Беларусы і амерыканцы роўныя, але беларусы раўнейшыя»

Проста напярэдадні меркаванага вылету паўстала чарговая праблема з Якубам Аморам. Падчас фінальнай нарады 27 красавіка 1952 года хлопец паставіў пытанне: ці правільна ён разумее, што ў выпадку паспяховага вяртання ў ЗША дэсантнікам будзе выплачаная сума страхоўкі ($ 10 000 на чалавека)? Супрацоўнікі ЦРУ адказалі адмоўна, патлумачыўшы, што Рагуля, імаверна, некарэктна данёс да агентаў гэтую інфармацыю (у дакуменце адзначаецца, што першапачатковая сума страхоўкі мусіла скласці $ 5000 на чалавека, але Рагуля дамогся яе падвышэння — «гэта быў, вядома, высакародны, але бессэнсоўны жэст, бо бенефіцыярам кожнага з курсантаў была CAMBISTA 1 [Рада БНР]»).

Амерыканцы спрабавалі выправіць сітуацыю, сцвярджаючы, што «не хочуць паводзіць сябе як немцы, але шчыра жадаюць супрацоўнічаць з беларусамі на падставе роўнасці», і нагадвалі, што ўдзельнікі групы з'яўляюцца не шпіёнамі ці наёмнікамі, а «патрыётамі, якія змагаюцца за вызваленне сваёй радзімы ад савецкага ярма». Адзін з куратараў звярнуў увагу, што амерыканскія салдаты, якія вяртаюцца з Карэі, не атрымліваюць падобных «бонусаў», і ў выніку стварэецца ўражанне, нібыта «беларусы і амерыканцы роўныя, але беларусы раўнейшыя». Амор, аднак, адказаў, што не бачыць аналогіі, і працягваў настойваць на сваім, хаця іншыя дэсантнікі яго не падтрымалі. Стала ясна, што ў такім складзе група ляцець не можа. Місія была на мяжы зрыву. Амор быў змешчаны пад варту, а затым вымушаны пакінуць Нямеччыну. У адным з рапартаў адзначалася, што ён у значнай ступені быў завадатарам усіх канфліктаў у калектыве і, «як Сталін, выкарыстоўваў кожнае пагадненне ці кампраміс у якасці трампліна для новай правакацыі». Вострыкаў у 1993 узгадваў: «Было заданне яго застрэліць, але што сталася з ім, я не ведаю». Паводле звестак Алега Гардзіенкі, Якуб Амор быў вымушаны перабрацца ў Бразілію, бо жыць у Еўропе і ЗША яму было забаронена.

### Наўкол ворагі

Падчас нарадаў з Рагулем і Абрамчыкам у пачатку чэрвеня 1952 года супрацоўнікі ЦРУ скардзіліся на кепскія вынікі падбору сярод тых самых 200 кандыдатаў для «неадкладнай акцыі» — яны сутыкнуліся з вялікім адсоткам адмоваў, «жахліва нізкім узроўнем» кандыдатаў, а таксама з «абсалютна неадэкватнай фінансавай справаздачнасцю» з боку Рагулі.

У сваю чаргу прадстаўнікі Рады БНР таксама мелі прэтэнзіі. Рагуля выказаў вялікую занепакоенасць дзейнасцю «Беларускага вызвольнага руху» Людвіга Галубовіча-Зарэчнага і шырокім розгаласам аб стварэнні ім «беларускай вайсковай часткі» пад апекай брытанскай разведкі — у сувязі з гэтым многія эмігранты папракалі Раду БНР за тое, што яна не здолела дабіцца падобных поспехаў з амерыканцамі. Таксама Рагуля паведаміў, што Зарэчны заснаваў у Шатландыі вайсковую школу, дзе навучаецца пяць курсантаў, сярод якіх Радзе БНР удалося інфільтраваць свайго агента, і неўзабаве ён зможа перадаць амерыканцам інфармацыю аб гэтай установе.

Тым часам да групы курсантаў у Бад-Вэрысхофене далучыліся два новыя ўдзельнікі — Генадзь Касцюк (Бэн, CAMPOSANTO 8) і Міхал Арцюшэўскі (Фін, CAMPOSANTO 9). Працягваліся заняткі, узнікалі новыя праблемы. Адмена вылету не магла не паўздзейнічаць на курсантаў негатыўна. Каб палепшыць настрой, ім зладзілі вакацыі і выправілі ў вандроўку. Не ўсё, аднак, прайшло гладка: у далейшых справаздачах адзначаецца, што ў маі — ліпені 1952 года Вострыкаў пакутаваў ад дэпрэсіі, якая ўзмацнялася тым, што ў той жа час хлопец перанёс венерычнае захворванне — з гэтых прычынаў ён найгорш з усіх дэсантнікаў засвоіў радыёсправу. Хлопец негатыўна ацэньваў узровень падрыхтоўкі, які прапаноўвалі інструктары, патрабаваў палепшыць канспірацыю і нават падумваў адмовіцца ад палёту. Прыгнечаным быў настрой усіх курсантаў — яны скардзіліся на негуманнае стаўленне з боку выкладчыкаў, якія, паводле іх словаў, «ужывалі метады МДБ» і былі «прыхільнікамі вялікарускага імперыялізму», а таму нібыта правакавалі іх на непаслушэнства, каб сарваць місію. Зрэшты, часам хлопцы і самі «адрываліся» — так, у ліпені 1952-га ўсе яны на нейкі час знікалі з канспіратыўнай кватэры на «спатканні» з дзяўчатамі, што жылі па суседстве. У сметах праекта былі прапісаныя таксама расходы на цыгарэты і алкаголь, якімі забяспечваліся курсанты.

### Свая кашуля бліжэйшая да цела

Цяпер дэсант планаваўся на жнівень 1952-га, у астатнім план заставаўся ранейшым. У камандзе з'явіўся ўраджэнец Наваградчыны, былы жаўнер батальёна Рагулі Генадзь Касцюк, таму, натуральна, роля рэзідэнта адводзілася яму. Яшчэ адным рэзідэнтам альбо кур'ерам-сувязным мусіў зрабіцца Вострыкаў, які паходзіў з Гомельшчыны, але, як адзначалася ў дакументах ЦРУ, правёў пэўны час у Заходняй Беларусі падчас Другой сусветнай вайны (настаўнічаў у Маларыцкім раёне, а пазней служыў у дапаможнай часці СС «Зондэркаманда Пфляўма» ў Альберціне пад Слонімам). Кальніцкі і Арцюшэўскі (былыя паліцыянт і остарбайтар з усходніх абласцей Беларусі) былі падрыхтаваныя як радысты і мусілі жыць на лясной базе. На працягу года рэзідэнты мелі збіраць звесткі аб кандыдатах, незадаволеных савецкай уладай, а вясной 1953-га распачаць іх рэкрутацыю для падпольнай барацьбы ў якасці кур'ераў, гаспадароў канспіратыўных кватэраў, наглядчыкаў сховаў і г.д. Увесну і ўлетку падпольная антысавецкая сетка мусіла быць пашыраная за кошт як набору мясцовых жыхароў, так і далучэння новых дэсантнікаў. Пашырацца было пажадана ў заходнім кірунку, каб атрымаць выхад да мяжы з ПНР. У справаздачах адзначаецца, што план задавольваў усіх удзельнікаў



Цімох Вострыкаў.

групы, акрамя Вострыкава, які лічыў, што легалізавацца мусяць усе дэсантнікі, а наведваць базу можна толькі зрэдку для радыёсувязі. Яму патлумачылі памылковасць такой «ерэтычнай» ідэі, але не было ніякай пэўнасці, што ён пагадзіўся шчыра.

Усім удзельнікам групы паранейшаму была прызначаная страхоўка, ад якой кожны адпісаў розны адсотак на карысць Рады БНР (калі Кальніцкі адпісаў 25 %, то Арцюшэўскі — толькі 6,5 %). Кальніцкі і Вострыкаў прызначылі сваімі бенефіцыярамі Раду БНР, а Касцюк і Арцюшэўскі — свае сем'і ў БССР. Ясна ўсведамляючы, што ў сучаснай палітычнай сітуацыі перадаць гэтыя грошы ў СССР не атрымаецца, Арцюшэўскі прасіў, каб сума перахоўвалася на рахунках амерыканскага ўрада, а не Рады БНР.

### Канспірацыя перадусім

Рагуля па-ранейшаму настойваў, што радыёпаведамленні групы мусяць утрымліваць паролі Рады БНР, пераконваючы амерыканцаў, што гэтае меркаванне падтрымліваюць удзельнікі групы — апытанне, аднак, паказала, што дэсантнікі ставяцца да гэтай ідэі індыферэнтна і нават адмоўна, а Кальніцкі наогул цікавіўся, як яму варта дзейнічаць, калі ён захоча даслаць паведамленне, змест якога не мусіць стаць вядомым Радзе БНР.

Падчас апошняга візіту Рагулі дэсантнікі падпісалі вайсковую прысягу БНР, а таксама для прыкрыцця напісалі сваім знаёмым лісты, у якіх паведамілі, што праходзяць вайсковую падрыхтоўку ў франкісцкай Гішпаніі. Апошні месяц перад дэсантам група правяла ў поўнай бяздзейнасці, чакаючы прыдатных метэаўмоваў. У справаздачах адзначаецца, што нават супрацоўнікі ЦРУ, якія прывыклі шукаць у падначаленых курсантаў толькі хібы, былі вымушаныя выказаць захапленне маральным узроўнем дэсантнікаў, якія былі настроеныя бадзёра і імкнуліся хутчэй вырушыць на заданне. У ноч з 26 на 27 жніўня група нарэшце выехала на аэрадром у Вісбадэне. Вострыкаў пазней узгадваў, як, сеўшы ў самалёт, «заўважыў, што ў кабіне перад намі й лётчыкамі была загароджа, і нехта там быў».

*Працяг будзе.*



23073

У [illegible] [illegible] сьвядомасьці і у цьвярозым стане я ніжэй падпісаны [illegible] [illegible] наступнае пажаданьне:

1. З належачаў мне месячнай пенсіі у вышыні 213 даляраў што месячна выплачваць 47 % на урад Беларускай Народнай Рэспублікі на чужыне праз яго прадстаўніка Сымона Менскага.

2. Увыпадку маёй сьмерці /2гады ад апошняй весткі/ належачую мне страхоўку на жыцьцё у вышыні 10.000 ам. даляраў пераказаць на [illegible] BNR /
як і належачую мне пенсію за увесь перыяд пачынаючы ад месяца выхаду.

Подпіс: [illegible]

Распіска Генадзя Касцюка.

# Не герой свайго часу

Ён прыдумаў «Маладняк», а за смелы палітычны верш у «лібералізацыю» 1920-х быў высланы з Беларусі. Яго паэзію чытаў на памяць Купала, а НКВД асудзіла на смерць як «члена антысавецкай аб’яднанай шпіёнска-тэрарыстычнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі». Ён толькі згаданы ў сучасных школьных праграмах, але ў іх не ўключаны. Усё гэта — Алесь Дудар.


Алесь Дудар (глядзіць убок) падчас вайсковых збораў студэнтаў БДУ, 1928.

Літаратуразнаўца Ганна Севярынец рыхтуе вялікі том «Выбранага» Алеся Дудара. Кніжка за кніжкай (а неўзабаве выйдзе падрыхтаваны ёй 2-томнік Дубоўкі), даследчыца пераадкрывае нам літаратуру 1920-х, у якой былі не толькі бурапена і штурм аванпостаў, але і тонкасць, і глыбіня.

**«Наша Ніва»: Чаму сёння трэба выдаваць збор твораў Алеся Дудара? Дапамажыце, калі ласка, чытачам ацаніць маштаб асобы.**

**Ганна Севярынец:** Ён быў амаль самым маладым з беларускага «штурм унд дрангу» — пакалення, да якога належалі Паўлюк Трус, Уладзімір Дубоўка, Міхась Зарэцкі, Кузьма Чорны і іншыя, — адным з самых маладых і адным з самых заўважных. Алесь Дудар прыдумаў «Маладняк». Заснавалі яго разам з ім яшчэ пяцёра, гэта вядома, але прыдумаў — Дудар. Першы рэдактар маладнякоўскага часопіса — у 19 гадоў, каб вы ведалі. Завадатар усіх буйных «нацдэмаўскіх» літаратурных скандалаў 20-х. Адзін з самых яскравых — няхай сабе і супярэчлівых — крытыкаў міжваеннага часу. Першы беларускі перакладчык «Фаўста» Гётэ, «Атэла» Шэкспіра, пушкінскага «Анегіна», урэшце. Гэта я так, пералічыла ў энцыклапедычным фармаце.

А калі па-чалавечы... Гісторыя Алеся Дудара — незвычайна цікавая гісторыя чалавека, абцяжаранага бліскучым талентам і вельмі мяккім характарам. Характарам, які катастрафічна не пасаваў да эпохі. Калі Дубоўка — герой, калі Крапіва — антыгерой, то Дудар — гэта проста не герой. Чалавек з вялікім талентам — але зусім без амбіцый. З выбітной магчымай будучыняй — і зусім без моцы за яе змагацца. Ён вельмі чалавечны. І ягоны час проста зжэр яго.

**«НН»: Не герой. Хіба Дудар дыстанцыяваўся ад грамадскага жыцця?**

**ГС:** Не, я маю на ўвазе крыху іншыя характарыстыкі. У Алеся Дудара была выразная і яскравая грамадская пазіцыя, між іншым, куды больш відавочная, чым у асцярожнага Дубоўкі. Але ж яму заўсёды бракавала ўнутранай моцы адстойваць яе да канца. Ён быў даверлівы, мяккі чалавек, лёгка паддаваўся ўплывам, мог падпарадкаваць свой талент чужому агрэсіўнаму ўплыву — так ён папаў «у абцугі» Цішкі Гартнага і стварыў свае самыя адыёзныя і нават у нечым непрыстойныя крытычныя артыкулы «антыўзвышэнскай» накіраванасці... Ён быў проста чалавек, з усімі звычайнымі чалавечымі слабасцямі. Такім не ставяць помнікаў. І дзякуй богу, бо помнікі — гэта небяспечна.

### Адкуль яны павыкопвалі тыя вершы?

**«НН»: Чаму пасля Дубоўкі вы ўзяліся менавіта за Дудара?**

**ГС:** Падчас працы над кнігай пра Уладзіміра Дубоўку Алесь Дудар-Дайлідовіч бясконца пападаўся мне «пад руку» — яны ж былі паплечнікамі напачатку 20-х, зацятымі ворагамі — напрыканцы. Але сапраўдная даследчыцкая цікавасць — калі проста спаць спакойна не можаш, пакуль не высветліш адказы на свае пытанні, — прыйшла, калі я перачытвала — трэба было ўдакладніць дэталі — два лісты Дудара да Дубоўкі. І — нібыта маланка. Разумееце: вытанчаная проза. Кожны сказ хацелася смакаваць. Ідэальны сінтаксіс. Бездакорная лексіка і фразеалогія. Кожнае слоўца на сваім месцы. Здавалася б, ліст. Нават не сяброўскі — справы полацкай філіі «Маладняка», напаўафіцыйны дакумент, але ж як створаны!

**Усе рукапісы спаліла НКВД. Вядомая нават дата, калі было распаленае гэтае вогнішча — 1 жніўня 1937 года**

Звярнулася наноў да паказанняў Дудара 1930 года, якія друкуе ў сваёй кнізе Міхнюк, там своеасаблівыя паказанні, такая споведзь паэта, шчырая спроба разабрацца ў сабе — і зноў: проста бліскучая проза! У нас такой мемуарыстыкі перыяду міжваеннай Беларусі, бадай што, і няма — дакладнай, дэталёвай, псіхалагічна насычанай, напісанай ідэальнай мовай. Карацей, мяне не на жарт зачапіла.

Я ведала раней вершы Дудара, і яны не падаваліся мне ну хоць бы на кроплю цікавымі. А тут — ну я ж бачу якасць тэксту. І пайшло-паехала.

Падняла ягоныя зборнікі 20-х, публікацыі, зборнік апавяданняў... Бачу: ён зусім іншы!

**«НН»: А ці перавыдавалі ўвогуле творы Дудара?**

**ГС:** Быў паныло зборнік 1959 года — божа мой, адкуль яны павыкопвалі тыя вершы, каб іх туды паставіць? Ведаеце, як у нас выдавалі напрыканцы 50-х рэабілітаваных літаратараў? Выбіралі самыя непрыгожыя, самыя нехарызматычныя, самыя механічныя вершы, да таго ж — абавязкова пра Леніна, пра Кастрычнік, пра пяць лыжак заціркі — вось гэтае во ўсё. Я разумею, чаму так рабілася, але гэта тэма асобнай гутаркі.

Дубоўка, дарэчы, грэбаваў сваім пасляррэабілітацыйным выданнем, не лічыў яго за кніжку і шмат сіл паклаў, каб следам за ёй скласці і выдаць наступную, больш-менш нармальную. За Дудара, расстралянага ў 1937-м, гэта павінны зрабіць мы.

### Уваходзіў у купалаўскі пул

**«НН»: Што вы самі нечакана для сябе дазналіся пра Дудара ў працэсе падрыхтоўкі? Што з гэтага найбольш здзівіла вас?**

**ГС:** Ой, гэта гутарка на два дні без перапынку. Агульнавядомая інфармацыя пра Алеся Дудара настолькі скажоная і несправядлівая, што здзіўляцца мне даводзіцца на кожным кроку. Прыкладам, ён на вельмі добрым узроўні валодаў французскай, англійскай і нямецкай мовамі — гэта я не кажу пра польскую, украінскую і рускую, гэта само сабой.

У яго была выдатная адукацыя: спачатку легендарная менская прыватная гімназія Зубакіна і Фальковіча (між іншым, вельмі нятанная гімназія, няшмат хто мог дазволіць сабе вучыцца ў ёй), потым, у бежанстве, — класічная мужчынская гімназія буйнога горада Казлова (цяпер Мічурынск, Тамбоўская вобласць Расіі). Акрамя гэтага, Дудар увесь час самаадукоўваўся: у яго была нерэальная бібліятэка. Дзе ён браў тыя выданні, якія я бачыла на свае вочы — а гэта ўжо толькі рэшткі легендарнай ягонай бібліятэкі, — я не магу зразумець. Гэта нешта фантастычнае, бібліятэка Дудара. Гэта тэма асобнага даследавання. Ды там за што не крані... Адносіны з Купалам, прыкладам... Алесь Дудар зусім не такі, якім яго нам малявалі. Як, між іншым, і ўся наша міжваенная літаратура.

**«НН»: А якія адносіны былі ў Дудара з Купалам?**

**ГС:** Купала Дудара вельмі любіў і цаніў. Дудар уваходзіў, так бы мовіць, у купалаўскі пул — Іван Дамінікавіч ставіўся да яго сардэчна, цаніў як паэта. Нездарма ж менавіта Дудару Купала, старшыня Пушкінскай камісіі, аддаў перакладаць «Анегіна». Абы-каму такі дзяржаўны заказ не даюць. Ёсць успаміны, як Дудар ратаваў Купалаву бібліятэку падчас паводкі, як свабодна, у любы час, прыходзіў да яго ў госці. Яны і выпівалі разам.

Ёсць кранальныя ўспаміны Юркі Віцьбіча пра тое, як беларускія пісьменнікі абмяркоўвалі сталінскую Канстытуцыю, а Дудар, Маракоў і Віцьбіч сядзелі ў сталоўцы Дома пісьменніка і пілі горкую. Далучыўся да іх і Купала. З залы даносіліся істэрычныя воклічы: «Вялікі Сталін! Вялікая Канстытуцыя!» — і чым гучней, тым паўней наліваліся келіхі. «Дзядзька Янка, прачытайце што сваё», — папрасілі Купалу. Ён прачытаў колькі радкоў з «Над ракой Арэсай» — гэта такая вельмі правільная, ідэалагічна вытрыманая паэма. «Ну як?» — і малыя паэты апусцілі вочы. «Дзякую, хлопцы, — горка сказаў Купала. — А вось ім там, — і ён матнуў галавой наверх, — падабаецца». Устаў, каб сыходзіць, — і раптам вярнуўся, нахіліўся да стала і прачытаў на памяць Дудараў «Себеж», вельмі моцны «нацдэмаўскі» верш:

Ішлі людзі праз Себеж на захад,
Не згубіўшы, шукалі чагосьці.
І пад замчышчам сохнуць і чахнуць
Беларускія белыя косці.

І Дудар, як піша Віцьбіч, заплакаў.

Цікава, што Якуб Колас не вельмі любіў Дудара, хоць калісьці вучыў яго. Гэта складаная і шматбаковая тэма — хто каго цаніў і хто каго не цаніў у беларускай літаратуры.

### Бібліятэка ўратавала бацькоў у вайну

**«НН»: Дудар ад 10 да 17 гадоў пражыў у Расіі, у бежанстве. Ці адбіўся на ім гэты побыт у Расіі ў веку, калі фармуецца асоба?**

**ГС:** У Алеся Дудара была вельмі беларуская сям’я — ма-

**Алесь Дудар**

(Аляксандр Дайлідовіч, 1904—1937) — паэт, крытык, перакладчык.

Нарадзіўся ў Навасёлках Мазырскага павета ( цяпер Петрыкаўскі раён), у сялянскай сям'і. Падчас Першай сусветнай Дайлідовічы былі ў бежанстве ў Тамбоўскай вобласці (Казлоў, цяпер Мічурынск). Вярнуліся вясной 1917. Пасля заканчэння (1921) школы ўступіў у тэатральную трупу У. Галубка. У 1923 адзін з заснавальнікаў «Маладняка».

Вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ, у выніку кампаніі супраць беларускіх пісьменнікаў-студэнтаў пакінуў універсітэт. За верш «Пасеклі Край наш папалам…» у 1929 высланы на тры гады ў Смаленск. Там быў арыштаваны ў 1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У 1931 зноў у Смаленску. Пасля заканчэння тэрміну высылкі вярнуўся ў Мінск. Трэці раз арыштаваны ў 1936 у Мінску. Асуджаны як «член антысавецкай аб'яднанай шпіёнска-тэрарыстычнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі», расстраляны 29 кастрычніка 1937.

ма ўсё жыццё гутарыла выключна па-беларуску, бацька ў побыце — таксама. Да таго ж з пачатку 1920-х Дудар — актыўны ўдзельнік мерапрыемстваў «Беларускай хаткі» і трупы Уладзіслава Галубка — два гады ён вандраваў з гэтым легендарным тэатрам у якасці акцёра. Да таго ж сем'і Дайлідовічаў і Галубка жылі дзверы ў дзверы, суседнія кватэры дома №15 па вуліцы Праваднай (цяпер гэта раён вуліцы Фабрыцыуса — **СМ**). Менавіта гэта сфармавала ягоную асобу. Ад расейскага Мічурынска ў Дудара — выбітнае веданне расейскай і сусветнай літаратуры. У тагачасным Казлове была адна з самых багатых правінцыйных бібліятэк, а Шурка Дайлідовіч перачытаў яе амаль усю.

**«НН»: Цікава, які быў лёс бібліятэкі самога Дудара. Міхась Чарняўскі ўспамінаў, як адзін агент КГБ, каб уцерціся ў давер, запрашаў яго дахаты і паказваў рэдкія беларускія кнігі. Пасля высветлілася, што яго бацька быў энкавэдыст і меў доступ да бібліятэк арыштаваных пісьменнікаў. Ці маглі і кнігі Дудара разысціся так?**

**ГС:** Так яны і разышліся, Дударовы кніжкі. Маці ягоная казала, што энкавэдысты вывезлі шэсць машын кніг пасля вобшуку. Мо і не шэсць, але тое, што іх вывезлі машынамі, — факт. Яшчэ частку маці прадала за акупацыяй, бо не было чаго есці — яны засталіся ўдваіх пад немцам, старэнькая маці і бацька. Сынава бібліятэка ратавала іх усю вайну.

**Ганна Севярынец**

Даследчыца літаратуры, настаўніца, журналістка. Нар. 1975 у Мінску.



Алесь Дудар. 1930-я. Фота з фондаў БДАМЛіМ.

### Жонка развялася, калі выслалі

**«НН»: Вядома, што следчая справа Дудара захоўваецца ў архіве КДБ. Ці могуць і там быць яго невядомыя творы?**

**ГС:** Наўрад ці. Усе рукапісы фігурантаў той справы былі спалены 1 жніўня 1937 года — акты знішчэння паказваў мне Леанід Маракоў. На жаль, я амаль упэўнена, што менавіта ў тым вогнішчы гарэлі найлепшыя іх творы. Але ніколі не варта губляць надзеі. Будзем чакаць, пакуль архівы адкрыюць.

**«НН»: Што стала з сям'ёй Дудара, калі яго рэпрэсавалі?**

**ГС:** О, гэта яшчэ адна доўгая і драматычная гісторыя. Паэтка Наталля Вішнеўская, з якой Алесь Дудар пабраўся шлюбам напрыканцы 1928 года, пад ціскам абставін і «добрых людзей» падала з ім на развод, калі ён быў высланы ў Смаленск у 1929 годзе за легендарны цяпер верш «Пасеклі Край наш папалам». Гэта была ягоная вялікая асабістая драма, нават думаў пра самагубства, прасіў яе трываць і чакаць, але ж... Ён больш не ажаніўся, а яна выйшла замуж за паэта Алеся Звонака, рэпрэсаванага ў 1936-м, а потым — за Янку Бобрыка, які загінуў у блакадным Ленінградзе. Сама Наталля Вячаславаўна жыла доўга, памерла ў 1986, але пра Дудара нідзе не ўспаміналa — так, пару словаў у лістах да Сяргея Грахоўскага. Дзяцей у іх не было.

### Шыкоўная магчымасць

**«НН»: Што будзе ў «Выбраным» Дудара?**

**ГС:** Вершы — як з вядомых зборнікаў 20-х, так і з маладаступных шараговаму чытачу публікацый; проза — некалькі апавяданняў і эсэ; крытыка — у Дудара, акрамя ўсім вядомай «антыўзвышэнскай» крытыкі, ёсць шэраг бліскучых уласна літаратуразнаўчых артыкулаў, напісаных яркай, жывой, іранічнай мовай; і нарэшце — пераклады: з Брусава, Блока, Ушакова, Гейне, Пушкіна.

Увойдзе туды і першы беларускі пераклад «Яўгена Анегіна», зроблены Дударом за дзесяць гадоў да Куляшова. Пераклад настолькі бліскучы, настолькі цікавы, што мне цяжка працаваць над ягоным расчытваннем — сяджу і радуюся, туды-сюды «ганяю» ў галаве Дударовы перакладчыцкія знаходкі:

Мой дзядзька правіл беззаганных,
Як не на жарты захварэў,
Узяў ён да сябе пашану
І лепш прыдумаць не ўмеў.
Яго пачын — другім навука.
Ды божа мой! Што за дакука
Пры хворым дні і ночы быць
І ні на крок не адступіць!

У дадатку плануе змясціць «матэрыялы да біяграфіі» — дакументы з асабістага архіва паэта, перададзенага мне сваякамі Алеся Дудара, некалькі лістоў.

**«НН»: Што з гэтага ніколі раней не друкавалася?**

**ГС:** Раней ніколі не друкаваўся «Анегін» — бо якраз пры канцы працы над ім Дудар быў арыштаваны, а потым — расстраляны. У 1936 публікаваліся першая і трэцяя часткі гэтага перакладу, але ж з такой пачварнай рэдактарскай праўкай, што страшна. У «Выбраным» будзе аўтэнтычны аўтарскі тэкст.

Пакуль не бачыла ў друку пераклад «Зімовай казкі» Гейне і аднаго верша — таксама бліскучыя пераклады.

Але нават і тое, што друкавалася, знаходзіцца ў вельмі абмежаваным доступе, у амаль спарахнелых падшыўках газет, у старых часопісах. Зусім не ведаем мы Дударовай прозы — і я з задавальненнем дам два апавяданні, кожнае з якіх цікавае і сюжэтна, і як адлюстраванне ўнутранага свету аўтара. Хаця агулам проза Алеся Дудара не была яскравай прыкметай ягонага часу.

**«НН»: Што вы маеце на ўвазе?**

**ГС:** Гэта такое відавочнае наследаванне традыцыям Купрына і Горкага з беларускім акцэнтам. Ёсць яскравыя абзацы, цікавыя вобразныя знаходкі, але ўвогуле — і тут меў рацыю Адам Бабарэка, які казаў, што «усё гэта ўжо было, і глыбей, і лепш».

**«НН»: Калі плануеце выдаць кнігу? Ці будуць на яе збірацца сродкі праз краўдфандынг?**

**ГС:** Канечне, хацелася б паспець да 29 кастрычніка 2017 года, васьмідзесяцігоддзя «чорнай ночы беларускай літаратуры», гэта было б і сімвалічна, і справядліва. Але кожны дзень прыносіць столькі новага і важнага, што загадваць цяжка. Буду выдаваць, як толькі зразумею, што кніга атрымалася вартай свайго аўтара.

Наконт краўдфандынгу: асабіста я лічу, што такія выданні — шыкоўная магчымасць для людзей бізнэсу зрабіць унёсак у справу беларускай культуры. Прыкладам, выданне Дубоўкі прафінансавана адным з найлепшых беларускіх мецэнатаў — пакуль не выдам сакрэту кім, усё паведамім на прэзентацыях. Калі нехта з бізнэсоўцаў пажадае ўнесці сваё імя ў гісторыю беларускай літаратуры і паўдзельнічаць у выданні твораў Алеся Дудара — пішыце. Гэта будзе файны і не вельмі цяжкі фінансава праект.

Гутарыў Сяргей Мікулевіч

## Алесь Дудар

# Пасеклі Край наш

Пасеклі Край наш папалам,
Каб панскай вытаргаваць ласкі.
Вось гэта — вам, а гэта — нам,
Няма сумлення ў душах рабскіх.

І цягнем мы на новы строй
Старую песню і чужую:
Цыгане шумнаю талпой
Па Бесарабіі качуюць...

За ўсходнім дэспатам-царком
Мы бегаем на задніх лапах,
Нью-Ёрку грозім кулаком
І Чэмберлена лаем трапна.

Засыплем шапкамі яго,
Ура, ура — патопім ў соплях.
А нас тым часам з году ў год
Тут прадаюць ўраздроб і оптам.

Мы не шкадуем мазалёў.
Мы за чужых праклёны роім,
Але без торгу і без слоў
Мы аддаем сваіх герояў.

Не смеем нават гаварыць
І думаць без крамлёўскай візы,
Без нас усё робяць махляры
Ды міжнародныя падлізы.

Распаўся б камень ад жальбы
Калі б ён знаў, як торг над намі
Вядуць маскоўскія рабы
З велікапольскімі панамі.

О, ганьба, ганьба! У нашы дні
Такі разлом, туга такая!
І баюць байкі баюны
Северо-Западного края...

Плююць на сонца і на дзень.
О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?
Ім мураўёўскі б гальштук ўздзець,
Нашчадкам мураўёўскім гэтым...

Але яшчэ глушыце кроў.
Гарыць душа і час настане,
Калі з-за поля, з-за бароў
Па-беларуску сонца гляне.

Тады мы ў шэрагах сваіх,
Быць можа, шмат каго не ўбачым.
З тугою ў сэрцы ўспомнім іх,
Але ніколі не заплачам.

А дзень чырвоны зацвіце,
І мы гукнем яму: «Дабрыдзень».
І са шчытом ці на шчыце
Ў краіну нашу зноў мы прыйдзем.

1928



Жанчыны, якія захавалі архіў Алеся Дудара: мама Вольга Іванаўна, сястра Яўгенія Аляксандраўна, пляменніца Ліда. Фота з архіва сям'і Дайлідовічаў.

# Будучыня танкаў

Летась танкі адзначылі 100 год свайго баявога хросту — 15 верасня 1916 года нямецкія жаўнеры на Заходнім фронце ўбачылі гіганцкія ромбападобныя машыны, якія няўмольна рухаліся ў іх бок праз ранішні туман.

Людзям, пераважна сялянам, якія ніколі не бачылі нічога падобнага, было лёгка прыняць монстраў, якіх не бяруць кулі, за істотаў, што вылезлі з самога пекла.

«Д'ябал ідзе!» — падняўся панічны крык. Так разам з танкам узнікла і танкабоязь, якую нямецкія жаўнеры перамаглі толькі праз некалькі тыдняў баёў.

Першыя танкі — брытанскія *Mark I* — былі ненадзейнымі машынамі, абароненымі толькі ад звычайных куль стралковай зброі. З тых 49 танкаў, якія мусілі пайсці ў першую атаку, толькі 32 даехалі да перадавой і толькі 18 змаглі дабрацца да пазіцый праціўніка — астатнія зламаліся ці загрузлі. Аднак нават такія недалугі змаглі тое, чаго не мог ніхто — прарваць калючы дрот і знішчыць кулямётныя гнёзды, адкрываючы дарогу пяхоце.

З тых часоў не раз тэарэтыкі вайны заяўлялі пра канец «эпохі танкаў» — з'явіліся супрацьтанкавыя рвы і міны, гранаты, бранябойныя кулі, супрацьтанкавыя гарматы і гранатамёты, спецыяльныя авіяцыйныя бомбы і ракеты. Кожны заўважны бой, дзе танкі адносна масава знішчаліся пяхотай, артылерыяй, мінамі ці з паветра, спрабавалі абвесціць сімптомам таго, што хутка танкі ўжо нікому не будуць патрэбныя, аднак сухапутныя браняносцы працягваюць жыць.

З 1916 года пачынаецца гонка танкавых узбраенняў, якая не спыняецца дагэтуль.



Зброя бліцкрыгу — нямецкі танк Pz. III у Францыі ў 1940 годзе.



Студзень 1940 года. Фінскія жаўнеры аглядаюць танкі, кінутыя чырвонаармейцамі.

### І скальпель, і молат

Танк аказаўся ўнікальнай прыладай, патрэба ў якой не знікае незалежна ад развіцця сродкаў супрацьдзеяння.

Спалучаючы добрую бронь, цяжкае ўзбраенне і мабільнасць, танк робіцца цэллю, якую цяжка знішчыць на полі бою. Сапраўды, развіваюцца розныя супрацьтанкавыя комплексы, здольныя знішчыць любы існуючы танк. Але танк так ці інакш застаецца найлепш абароненым мабільным комплексам узбраення ў баявых умовах — зброя, якая здольная з пэўнай доляй імавернасці яго знішчыць, знішчыць абсалютна лёгка і любую іншую бранятэхніку: бронетранспарцёр, баявую машыну пяхоты, самаходную артылерыйскую гармату. Зразумела, што гэта не прычына адракацца ад любой бранятэхнікі наогул.

У шмат разоў падвышаецца ступень абароненасці танка пры правільным выкарыстанні баявой тэхнікі, а таксама праз сінергію, якая забяспечваецца ўзаемнай падтрымкай розных родаў зброі.

Гэтак, калі мы паглядзім на поле бою з вышыні птушынага палёту, мы ўбачым, што кошт, маса і габарыты сапраўды магутных супрацьтанкавых комплексаў не дазваляюць узброіць імі пяхоту настолькі масава, каб надзейна гарантаваць сабе абарону ад масіраванага танкавага прарыву. Тым больш такога прарыву, які будзе падтрыманы падаўляючым агнём артылерыі, пяхотай, авіяцыяй.

Умоўна кажучы, пакуль кожны другі-трэці жаўнер не будзе мець дастаткова лёгкую і дальнабойную зброю, здольную знішчыць танк на адлегласці як мінімум 1—1,5 км, танку, як віду баявой тэхнікі, нішто не пагражае. А да гэтага яшчэ вельмі далёка.

Дзякуючы сваёй броні і мабільнасці, танк знаходзіць сябе і ў пазіцыйнай вайне. Гэта фактычна рухомы форт з вельмі дакладнай гарматай, які здольны падтрымліваць абарону сваёй пяхоты, змагацца з іншымі танкамі, знішчаць агнём варожыя акопы, снайперскія і кулямётныя пазіцыі.

«Браніраваная снайперская вінтоўка самага буйнога калібру», — так часам эксперты апісваюць сучаснае выкарыстанне танкаў у часе канфлікту на Данбасе.

### Новая гонка?

Пасля заканчэння халоднай вайны арміі ўсяго свету амаль не ваявалі са шматлікімі рэгулярнымі войскамі праціўніка — выключэннем сталі войны антыіракскіх кааліцый на чале з ЗША ў 1991 і 2003 гадах.

Якраз у 2003 годзе хуткі рух механізаваных калон на чале з танкамі цалкам дэзарганізаваў абарону іракскай арміі, дэмаралізаваў яе і прывёў да амаль бяскроўнага захопу Багдада, хоць да яго абароны дыктатар Садам Хусейн рыхтаваўся некалькі месяцаў.

Такім чынам, танкі, як і ў пачатку 1940-х гадоў сябе паказалі як інструмент бліцкрыгу — хуткай манеўранай вайны, мэта якой — нанесці рашучую паразу ворагу за мінімальны тэрмін.

Аднак у цэлым Захад у апошнія 25 год перастаў звяртаць асаблівую ўвагу на свае танкавыя войскі. Заканчэнне супрацьстаяння з савецкім блокам дазволіла заўважна скараціць выдаткі на абарону а баявыя дзеянні ўсё больш скіроўваліся супраць паўпартызанскіх-паўтэрарыстычных атрадаў баевікоў. У такіх умовах «вялікім танкавым дзяржавам» дастаткова было займацца мадэрнізацыяй распрацовак 1960—1970-х гадоў.

На гэтым фоне толькі Расія ў 2009 годзе вырашыла, маючы мільярды даляраў нафтавага звышпрыбытку, распрацаваць прынцыпова новы танк, які атрымаў назоў Т-14 «Армата». У Маскве танк называюць машынай новага пакалення, кажучы пра ўсталяванне на ёй самых сучасных



Украінскія Т-64 падчас вайны на Данбасе.



Калона амерыканскіх танкаў і БМП наступае ў Іраку, 2003 год.

# АУДИТОРСКОЕ ЗАКЛЮЧЕНИЕ
## по бухгалтерской отчетности
***за период с 01.01.2016 г. по 31.12.2016 г.***

«28» февраля 2017 г. г. Минск

***Директору ООО «Страховой брокер Эксинс» А.И.Матовичу.***

*Аудируемое лицо:*

***Общество с ограниченной ответственностью «Страховой брокер Эксинс» (ООО «Страховой брокер Эксинс»)***

220004 г. Минск, ул. Короля, д.9, офис 105.

*Сведения о государственной регистрации:*

Деятельность Общества с ограниченной ответственностью «Страховой брокер Эксинс» зарегистрирована Министерством финансов Республики Беларусь 12.02.2014 г., регистрационный номер № 806000431.

*Индивидуальный предприниматель* ***Сачишина Елена Владимировна.***

220034, г. Минск, ул. Захарова, 19, кв.4, телефон 284-57-10.

Свидетельство о государственной регистрации от «03» сентября 2013г. № 0459870, регистрационный номер 192041667.

Расчетный счет № 301 320 753 001 6 в ЗАО «МТБанк», БИК 153001117.

Мною проведен аудит прилагаемой бухгалтерской отчетности *ООО «Страховой брокер Эксинс»* состоящей из:

бухгалтерского баланса на 01.01.2017г;

отчета о прибылях и убытках;

отчета об изменении собственного капитала;

отчета о движении денежных средств за год;

примечаний к годовой бухгалтерской отчетности.

**ОБЯЗАННОСТИ РУКОВОДСТВА АУДИРУЕМОГО ЛИЦА ПО ПОДГОТОВКЕ БУХГАЛТЕРСКОЙ ОТЧЕТНОСТИ**

Руководство *ООО «Страховой брокер Эксинс»* несет ответственность за составление и представление бухгалтерской отчетности в соответствии с законодательством Республики Беларусь по бухгалтерскому учету и отчетности и организацию системы внутреннего контроля, необходимой для составления бухгалтерской отчетности, не содержащей существенных искажений, допущенных вследствие недобросовестных действий или ошибок.

**ОБЯЗАННОСТИ АУДИТОРА**

Аудитор несет ответственность за выраженное аудиторское мнение о достоверности бухгалтерской отчетности, основанное на результатах проведенного аудита.

Аудит проведен в соответствии с требованиями Закона Республики Беларусь от 12 июля 2013 года "Об аудиторской деятельности" и национальных правил аудиторской деятельности, которые обязывают нас соблюдать нормы профессиональной этики, планировать и проводить аудит таким образом, чтобы обеспечить достаточную уверенность относительно наличия либо отсутствия существенных искажений в представленной бухгалтерской отчетности.

В ходе аудита были выполнены аудиторские процедуры, направленные на получение аудиторских доказательств, подтверждающих значения показателей бухгалтерской отчетности *ООО «Страховой брокер Эксинс»*, а также другую раскрытую в ней информацию. Выбор аудиторских процедур осуществлялся на основании профессионального суждения с учетом оценки риска существенного искажения бухгалтерской отчетности в результате ошибок или недобросовестных действий. При оценке риска существенного искажения бухгалтерской отчетности рассматривалась система внутреннего контроля *ООО «Страховой брокер Эксинс»*, необходимая для составления бухгалтерской отчетности, не содержащей существенных искажений, с целью планирования аудиторских процедур, соответствующих обстоятельствам аудита, но не с целью выражения мнения относительно эффективности функционирования этой системы.

Аудит также включал оценку применяемой учетной политики, обоснованности учетных оценок и общего содержания бухгалтерской отчетности *ООО «Страховой брокер Эксинс»* **.**

Я полагаем, что в ходе аудита мною были получены достаточные и надлежащие аудиторские доказательства, которые могут являться основанием для выражения аудиторского мнения.

**АУДИТОРСКОЕ МНЕНИЕ**

По моему мнению, бухгалтерская отчетность *ООО «Страховой брокер Эксинс»*, сформированная в соответствии с требованиями законодательства Республики Беларусь по бухгалтерскому учету и отчетности, достоверно во всех существенных аспектах отражает финансовое положение *ООО «Страховой брокер Эксинс»* на ***1 января 2017 года*** и результаты его финансово-хозяйственной деятельности ***за 2016 год***, при этом совершенные *ООО «Страховой брокер Эксинс»* хозяйственные операции соответствуют законодательству.



Индивидуальный предприниматель _________ Е.В.Сачишина
(подпись)

*Аудиторское заключение получено в 2-х экземплярах «28» февраля 2017г.*



_________ *Матович А.И.*
*подпись*

ООО "СТРАХОВОЙ БРОКЕР ЭКСИНС" УНП 806000431

сістэмназірання, сувязі, абароны. Цяпер яна праходзіць вайсковыя выпрабаванні.

У адказ павялічваць свае арсеналы бранятэхнікі, мадэрнізаваць свае танкі пачалі і самыя ўплывовыя краіны НАТА: ЗША, Нямеччына, Брытанія, Польшча, Турцыя. Сімптомам новага штуршка гонкі ўзбраенняў стала прэзентацыя новай танкавай 130-мм пушкі, якую вырабіла кампанія *Rheinmetall* — пастаўшчык нямецкіх танкаў *Leopard 2*. Улічваючы, што, па дадзеных СМІ, пушку пачалі распрацоўваць у 2015 годзе, а яна была гатовая ўжо ў 2016, тэмпы працы інжынераў мала адрозніваліся ад ваенных.

Акрамя таго, Францыя і Нямеччына дамовіліся пачаць працу над будучым супольным танкам, які аб'яднае найлепшыя характарыстыкі французскіх танкаў *Leclerc* і нямецкіх танкаў *Leopard 2*. Зацікаўленасць у далучэнні да еўрапейскага танкавага альянсу агучыла і Польшча.

У лістападзе 2016 года вайсковая прэса ЗША пачала паведамляць пра праграму «Баявая машына наступнага пакалення», вынікам якой можа стаць з'яўленне будучага амерыканскага танка.

Пакуль рана казаць, як будзе выглядаць новае пакаленне сучасных рыцараў. Адзінае, што зразумела пра танкі будучыні, — яны будуць мабільнымі, добра абароненымі, цяжка ўзброенымі, мець найноўшыя сістэмы перадачы дадзеных.

Але ваююць не асобныя танкі, а складаныя вайсковыя структуры, якія выйграюць ці прайграюць войны праз лепшую каардынацыю, узаемадзеянне паміж пяхотай, артылерыяй, танкамі, авіяцыяй, выведкай.

Выйграюць арміі з лепш падрыхтаванымі, матываванымі і больш ініцыятыўнымі афіцэрамі і жаўнерамі, дзяржавы з больш магутнай эканомікай і перакананым у патрэбе змагання за сваю незалежнасць насельніцтвам.

**Аляксандр Гелагаеў**

Приложение 1
к Национальному стандарту бухгалтерского учета и отчетности «Индивидуальная бухгалтерская отчетность»
Форма

**БУХГАЛТЕРСКИЙ БАЛАНС**
На 31 декабря 2016 года

| | |
|---|---|
| Организация | ООО «Страховой брокер Эксинс» |
| Учетный номер плательщика | 806000431 |
| Вид экономической деятельности | 66220 |
| Организационно-правовая форма | Общество с ограниченной ответственностью |
| Орган управления | |
| Единица измерения | тыс.руб. |
| Адрес | 220004 г.Минск, ул.Короля д.9 оф.105 |

| Активы | Код строки | На 31 декабря 2016 года | На 31 декабря 2015 года |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| I. ДОЛГОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ | | | |
| Основные средства | 110 | 5 | 6 |
| Нематериальные активы | 120 | 3 | - |
| ИТОГО по разделу I | 190 | 8 | 6 |
| II. КРАТКОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ | | | |
| Краткосрочная дебиторская задолженность | 250 | 17 | 22 |
| Денежные средства и эквиваленты денежных средств | 270 | 84 | 58 |
| ИТОГО по разделу II | 290 | 101 | 80 |
| БАЛАНС | 300 | 109 | 86 |
| Собственный капитал и обязательства | Код строки | На 31 декабря 2016 года | На 31 декабря 2015 года |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| III. СОБСТВЕННЫЙ КАПИТАЛ | | | |
| Уставный капитал | 410 | 35 | 35 |
| Добавочный капитал | 450 | 2 | 2 |
| Нераспределенная прибыль (непокрытый убыток) | 460 | 45 | 40 |
| ИТОГО по разделу III | 490 | 82 | 77 |
| IV. ДОЛГОСРОЧНЫЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА | | | |
| ИТОГО по разделу IV | 590 | - | - |
| V. КРАТКОСРОЧНЫЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА | | | |
| Краткосрочная кредиторская задолженность | 630 | 27 | 9 |
| в том числе: | | | |
| поставщикам, подрядчикам, исполнителям | 631 | 2 | - |
| по налогам и сборам | 633 | 3 | 1 |
| по социальному страхованию и обеспечению | 634 | 1 | 1 |
| по оплате труда | 635 | 2 | 2 |
| прочим кредиторам | 638 | 19 | 5 |
| ИТОГО по разделу V | 690 | 27 | 9 |
| БАЛАНС | 700 | 109 | 86 |

Руководитель А.И. Матович
Главный бухгалтер Н.В.Микитич
31 марта 2017 г.



**ОТЧЕТ**
о прибылях и убытках
за январь-декабрь 2016 года

| | |
|---|---|
| Организация | ООО «Страховой брокер Эксинс» |
| Учетный номер плательщика | 806 000 431 |
| Вид экономической деятельности | 66 220 |
| Организационно-правовая форма | Общество с ограниченной ответственностью |
| Орган управления | - |
| Единица измерения | тыс.руб. |
| Адрес | 220004 г.Минск, ул.Короля д.9 оф.105 |

| Наименование показателей | Код строки | За январь - декабрь 2016 года | За январь - декабрь 2015 года |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Выручка от реализации продукции, товаров, работ, услуг | 010 | 196 | 151 |
| Валовая прибыль | 030 | 196 | 151 |
| Управленческие расходы | 040 | (130) | (106) |
| Прибыль (убыток) от реализации продукции, товаров, работ, услуг | 060 | 66 | 45 |
| Прочие доходы по текущей деятельности | 070 | 6 | - |
| Прочие расходы по текущей деятельности | 080 | (6) | - |
| Прибыль (убыток) от текущей деятельности | 090 | 66 | 45 |
| Доходы по инвестиционной деятельности | 100 | - | - |
| Доходы по финансовой деятельности | 120 | 16 | 25 |
| в том числе: | | | |
| курсовые разницы от пересчета активов и обязательств | 121 | 12 | 22 |
| прочие доходы по финансовой деятельности | 122 | 4 | 3 |
| Расходы по финансовой деятельности | 130 | (11) | (7) |
| курсовые разницы от пересчета активов и обязательств | 132 | (11) | (7) |
| Наименование показателей | Код строки | За январь - декабрь 2016 года | За январь - декабрь 2015 года |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Прибыль (убыток) от инвестиционной и финансовой деятельности | 140 | 5 | 18 |
| Прибыль (убыток) до налогообложения | 150 | 71 | 63 |
| Налог на прибыль | 160 | (13) | (11) |
| Чистая прибыль (убыток) | 210 | 58 | 52 |
| Совокупная прибыль (убыток) | 240 | 58 | 54 |

Руководитель А.И. Матович
Главный бухгалтер Н.В.Микитич
31 марта 2017 г.



# Ціна на нагах

**Уладзімір Крумін.** Урывак з аповесці «Пасля рэвалюцыі».

*Patriotism is, fundamentally, a conviction that a particular country is the best in the world because you were born in it.*
*George Bernard Shaw*


ГАЛЛЯШ СЯЛЯВА.

Воўка прачнуўся ад нясцерпнага болю ў галаве. Дзесьці ў другім пакоі драўлянай вясковай школы корпалася ў печы старая маці, гатуючы свінням і сыну сняданак.

— Ідзі храпы насячы, галодныя равуць! — сказала яна праз зубы, пачуўшы, як сын пачаў варушыцца.

— Зараз, — буркнуў Валодзька.

Ранкі ў канцы жніўня на Браслаўшчыне ўжо пачыналі рабіцца халоднымі, таму хочаш не хочаш, а трэба было залезці ў смярдзючы цыгарэтамі швэдар.

«Дзе мае боты?» — запытаў ён сам у сябе. Адказу ў галаве не ўзнікла.

Знайшоўшы нейкія абразанікі, Воўка выйшаў з хаты. Святло, забіваючы астатнія клеткі мозгу, апусцілася на яго галаву як калун на калодку. Ён заплюшчыў вочы. Ідучы амаль навобмацак, Воўка зайшоў за кут хаты і амаль адразу пачаў спускаць вадкасць з арганізма. Зрабілася лепей і маральна, і фізічна, толькі ранішні холад праз абрэзаныя боты трапляў на ступні.

«Дзе ж мае боты?» — зноў запытаўся ў сябе Валодзька. Адказу не было.

Праца ішла марудна. Секчы буракі не было ані жадання, ані моцы, ды і кавалкі лісця час ад часу траплялі ўнутр абразанікаў.

«Ды, бл..ць, дзе ж гэтыя ё..ныя боты?!» — не вытрымаў хлопец. Наваколле маўчала, толькі свінні Лідка і Пракоп раўлі на ўсё горла і паднімалі падлогу ў свінарніку так, што ўвесь будынак хістаўся. Час снядання даўно ўжо мінуў, а свінні, як вядома, стварэнні пунктуальныя. Боты знайшліся каля лазні. Ляжалі сабе каля пустых бутэлек і смецця, што пакінулі ўчора сябры. Відаць, Воўка так і не нацягнуў іх, бо, пасля таго, як папарышся і вып'еш, вядома, горача.

Пасля таго, як пунктуальныя стварэнні задаволіліся, маці паклікала сына снедаць. Нават наліла сотку, каб папраўць сынова здароўе, бо глядзець на яго проста так было цяжка.

— На рыбу пайду, — паведаміў Валодзька.

— Ага, ідзі. Заняцца табе няма чым, лайдак! Шмат ты навудзіў пазаўчора.

— Жэнька казаў, лешч бярэцца.

— У Жэнькі заўсёды бярэцца, а ты пусты прыходзіш. Увесь у бацьку — той быў абібок і ты туды ж. Лазню калі адрамантуеш?

— Адрамантую.

— Адрамантую. Два месяцы збіраешся... Чакаеш, калі загарыцца? Дым праз дах ва ўсе бакі! Ластоўскі ўчора прыбег, думаў — пажар.

— Адрамантую. Жэньку папрашу — дапаможа.

— Без Жэнькі — нікуды. Анідачэго.

— Добра табе.

**Новая ўлада сюды яшчэ не дайшла, і надзеі, што дойдзе, не было**

— Сала вазьмі з сабой. Хіба не вернешся сёння, зноў да Натальні пойдзеш. Як яна цябе толькі цярпіць, гультая!

— Угу.

Чарвякі капаліся хутка. Валодзька спецыяльна выбіраў тых, што мелі светлыя палоскі ўздоўж цела, яны і смярдзелі інакш, і лешч іх браў адразу, без сумневу.

Пясчаная дарога да возера так і не была адрамантаваная. Новая ўлада сюды яшчэ не дайшла, і надзеі, што дойдзе, не было аніякай. Драўляны мост, які пабудавалі яшчэ пры Польшчы, трымаўся на астатніх іржавых цвіках. Турыстычны сезон скончыўся, а і так не ўдалося зарабіць на гасцях з Расіі, іх у гэтым годзе было зусім мала: закрылі мяжу, і цяпер нашмат даражэй было ехаць адпачываць на некалі ўлюбёных і разрэкламаваных Браславах.

Пасля Сівага ў краіне пачалася барацьба за ўладу. Руская працісталі свайго кандыдата Чубатага, а менская апазіцыя — Пракопчыкаву. Дапамагла Еўропа, якая абяцала, што калі Пракопчыкава атрымае перамогу, то будуць новыя крэдыты з добрым адсоткам. Выбіраць не прыходзілася, бо грошай зусім не стала. Нават пенсію для маці паштальёнка не прывозіла па некалькі месяцаў. З невялічкім адрывам ад Чубатага перамагла жанчына-кандыдатка. Добра, што ў камісіях засталіся старыя, правераныя часам людзі, і ўсё прайшло даволі ціха.

Новы прэзідэнт узялася за працу з імпэтам. Адразу была ўведзена мяккая беларусізацыя: па БТ пачалі круціць песні «N.R.M.» і «Крамы», а «Відзьма-Нявідзьма» вярнулася ў прайм-тайм.

Ніхто цяпер не аспрэчваў, што дзяржаўныя сімвалы павінны быць іншыя, разам з назвамі вуліц, на перайменаванне якіх былі выдадзены вялікія сродкі. Змяняліся пашпарты. Згодна з еўрапейскім стандартам, людзі атрымалі пластыкавыя карткі з «Пагоняй». Міліцыя стала называцца Нацыянальнай паліцыяй, ці НАП, а АМАП — спецыяльнай тактычнай групай «Ваўкалак». Працы ім хапала, як і заўсёды.

Валодзька спачатку быў нават задаволены ўсімі гэтымі дзеяннямі, бо па тэлевізары выглядала зусім крута, толькі потым эканамічныя праблемы, якія назапасіліся пры Сівым, вярнуліся з новай сілай. Новая ўлада не жадала выконваць умовы Расіі, і тая зусім пакрыўдзілася. Як заўсёды, пачалося з малака і мяса, а потым уключылася цяжкая артылерыя абмежаванняў нафты і газу. Зіма прайшла пад крыкі, што партызаны вытрымалі — і мы вытрымаем, і не больш як з 17-цю градусамі ў шматпакаёўках. Добра, што Воўка з маці не перайшлі на газ і далей карысталіся дровамі, якія можна было за бутэльку знайсці дзе хочаш.

Нарэшце быў уведзены памежны рух з Польшчай, якая зрабіла спецыяльныя ўмовы пры паступленні моладзі ў польскія ВНУ, а потым прэзідэнт Рэчы Паспалітай ласкава паведаміў пра надзвычайныя правы ўсіх жыхароў Заходняй Беларусі пры атрыманні «картак паляка». Карэнных палякаў адразу паболела на чатыры мільёны з гакам.

Усё гэтыя падзеі здаваліся вельмі далёкімі тут, на Браслаўшчыне. Здавалася, нішто не магло змяніць дзённага распарадку жыхароў выміраючых вёсак. Адзінае, што бянтэжыла: усё больш пачало з'яўляцца турыстаў з нейкіх дзіўных краінаў. Дагаварыцца з імі было амаль немагчыма: рускай мовы яны не разумелі.

Воўка адштурхнуў човен ад берага, а сам, скокнуўшы ў яго, пачаў веславаць.

Надвор'е было кепскае, ды і позна ўжо было для рыбалкі, але лепш так, чым слухаць бурчанне маці ў хаце. Ён нажывіў чарвяка, плюнуў на яго і закінуў вуду. Першы лешч чакаў нядоўга. Паплавок прыпаднёўся і лёг на ваду бокам — Валодзька падсек. Лешч супраціўляецца толькі, калі ён на глыбіні, а потым, наглытаўшыся паветра, становіцца млявы, як той беларус на выбарах.

Старая сіваўская сістэма з усёй моцы супраціўлялася новаму кіраўніцтву, якое хацела паказаць прыклад дэмакратыі, каб атрымаць новы крэдыт, і не сцінала ўсіх галоваў адразу. Пікеты перад прэзідэнцкім палацам сталіся звычайнай справай і, здаецца, нікога ўжо не здзіўлялі пасля працяглага часу цішы на вуліцах.

Чыноўнікі збольшага засталіся старыя. Хаця, канечне, цяпер яны крычалі пра важнасць беларускай мовы і наслі вышыванкі. На месцах і ў вёсках часта мяняць проста не было на каго. Нават стары старшыня Валодзькавага калгаса неяк ухітрыўся і застаўся кіраваць далей, прадаўшы свой *Volkswagen Touareg*, падараваны мінулай уладай альбо нажыты цяжкай працай на лесапільні — гісторыя аб гэтым сціпла маўчыць. Так ці інакш, *Touareg* асацыяваўся з колішнімі справамі кіраўніка калгаса па продажы лесу і, як сімвал, мусіў сысці ў забыццё.

Лешч браўся добра, і ўпершыню Воўка пачуў палёгку пасля ўчарашняй папойкі з сябрамі. Рукі наліваліся сілай, рухі зрабіліся дакладнымі. Збоку стала бачна: працуе сапраўдны браслаўскі рыбак, якога не здзівіш ані памерамі, ані колькасцю рыбы.

Улоў быў вялікі, і Валодзька вырашыў, як і пазаўчора, прадаць яго большую частку.

«Нам з маці хопіць і так на юшку», — хутка прыкінуў ён. Кліентаў было шмат, але ён пайшоў да мясцовага кантрабандыста Галляша, які сам рыбу не вудзіў, але быў да яе ласы, ды і дваіх дзяцей трэба было чымсьці карміць. Галляш быў браслаўскім беспрацоўным інтэлігентам, які любіў паўтараць: «Шляхта не працуе!» Ён нават некалі вучыўся ў Менску і рабіў розныя цікавыя праекты накшталт «Зялёнага Браслава». Плацілі за праекты мала, і, калі з'явілася другое дзіця, Галляш канчаткова ўдарыўся ў кантрабанду. Наладзіў некалькі маршрутаў у суседнюю Латвію, дзе, як і ў Беларусі, у эканамічным плане была поўная дупа. Па старой памяці некаторыя беларускія тавары і надалей карысталіся неблагім попытам у суседзяў. Добра бралі цукар, сыркі і цыгарэты з палівам.

— Здароў, Наста! — Дзверы адчыніла жонка Галляша з дзіцем на руках. Дзіця глядзела насцярожана, а Наста — абыякава. Калісьці яна была адной з найпрыгажэйшых дзяўчат браслаўскіх ваколіц. Нават мінскія фатографы завіталі

**Уладзімір Крумін**

Нар. 1985 у Гродне. Шмат часу праводзіў у вёсках сваіх бацькоў, што ў Браслаўскім і Мёрскім раёнах. Піша тэксты песень, вершы і прозу. Вакаліст гурту «Здань».

да яе, каб зрабіць з дзяўчынай фотасесію на фоне азёр. Час і проза сямейнага жыцця завастрылі рысы Насцінага твару, а ў вачах, некалі глыбокіх і гуллівых, як Дрывяты пры добрым ветры, з’явіўся холад.

— А дзе гэты бандыт?

— Паглядзі ў гаражы.

Праз адчыненыя дзверы Воўка ўбачыў высокую і худую, як у большасці мясцовых мальцоў, постаць. Адзінае, чым Галляш адрозніваўся ад астатніх, былі светлыя, як сухое сена, валасы. Кантрабандыст разліваў калгасную салярку па каністрах. Рукі яго настолькі прапахлі палівам, што не дапамагала нават *Fairy* з пяском. У кутце гаража стаяла вялізная металічная бочка, у якую на працягу месяца злівалася з трактароў паліва, каб потым перад паездкай пераліцца ў каністры і бакі.

— Рыбу возьмеш?— Воўка паказаў садок.

— Ага, давай, схадзі да жонкі, грошы табе дасць. Пяць кіло?

— Сем.

— Добра, як там маці?

— Тупае памаленьку.

— Усё ездзіш?

— Так, на мяжы цяпер лепей, нашыя не так трасуць, толькі калі кіраўніцтва прыязджае.

— Што сёння ў горадзе?

— А... мінскія наведаліся, да прэдсядацеля... п’юць на базе.

— Не нажаруцца ніяк. Добра, давай там! Заязджай, калі будзеш побач!

— Ага.

Грошы прыемна шалясцелі ў кішэні, і Валодзька пайшоў да кафэшкі, каб павітацца з Наталькай. Непадалёк ад будынка дзеці рагаталі з мясцовай зоркі-вар’яткі Марылькі: «Марылька-Марылька, пакажы пуп!» А тая і рада, задзірала ўверх спадніцу і круцілася на ўсе бакі, рагочучы. Валодзька адвярнуўся і пакрочыў далей.

Разведзеная Наталька сама выхоўвала сына: мужык дзесьці знік у Расіі, калі паехаў зарабіць. Дзяўчыне падабалася Валодзькава ўсмешка, таму хлопец быў яе частым госцем.

— Прыйдзеш сёння? — запыталася яна

— Прыйду.

— Я працую да дзясятай. Госці ў прэдсядацеля, затрымаюць нас.

— Добра, я пачакаю.

Дзесьці з будынка сельсавета даносілася «Купалінка», лунаў бел-чырвона-белы сцяг, а побач стаялі некалькі машын з мінскімі нумарамі. Плюнуўшы на нумар з 7-га рэгіёна, Воўка пакрочыў далей. Звычка ненавідзець гасцей выпрацавалася ў кожнага браслаўчаніна. Ненавідзелі ціха, бо госці былі адзінай магчымасцю добрага заробку ў наваколлі. Асабліва ненавідзелі мінскіх, бо тыя скуплялі дзедавы хаты і рабілі з іх бардэлі, перабудоўваючы і руйнуючы дзіцячыя ўспаміны мясцовых.

Воўка выйшаў з кафэшкі і пакрочыў у бок базы: цікава было паглядзець, як адпачываюць кіраўнікі.

— Валодзька! — пачуўся голас старога чалавека. Дзед Антось, стрыечны брат маці, усміхаўся да яго праз вусы.

— Шукаеш каго?

— Не.

— Хадзі да мяне, пагаворым.

Дзед Антось жыў каля самага возера, і Валодзька любіў у дзяцінстве лавіць рыбу з ягонай кладкі, якая цягнулася далёка ў возера. Тут добра браліся невялічкія акуні, а часам нават шалёны судак ірваў непрыстасаваную для такой рыбы лясу. Дзед пацягнуўся за шафу і дастаў бутэльку мутнай.

— Што там у цябе?

— Нічога, дзядзьку, памаленечку.

— Даўно не быў у вас: стары, цяжка хадзіць. Маці твая мацнейшая за мяне, хоць і старэйшая. А я памру хутка. Сена мала ў гэтым годзе, прэдсядацель не дае больш, а я кашу павольна. Нага баліць. У балота дык зусім не магу зайсці, не выцягнуць нагі. А мае палі дык у балоце. А прэдсядацель сена не дае, кажа, што і так грошай няма на камбікорм каровам, і сена шмат трэба. Я кажу яму, што купіць магу, а ён кажа, што няма сена. Сёння Марту хавалі ў Слабодцы, памятаеш? Добрая жанчына была. Дзеці параз’ехаліся, потым да яе прыходзіла адна з сельсавета, каб пераварочваць яе, калі ўжо ляжала, бо пролежні з’явіліся, а не было каму пераварочваць. А тая, з сельсавета, грошы крала і посуд. Мучылася Марта, я не хачу каб так, лепей адразу. Ты будзеш мяне пераварочваць, калі што?

— Ды ідзі ты, дзядзька. Каркаеш.

— Не, я слабы ўжо. Нага баліць. Лазню рабілі ўчора? Сена мала. Карове не хопіць на зіму. Здаваць трэба будзе на мяса, а яна маладая яшчэ. Шкада Маліну. Яна малака шмат дае. Я яе купіў ад Саўкі, а той — з Латвіі прыцягнуў быў. Шкада, добрая карова, не брыкаецца. Мне нага баліць. Цяжка даіць, а яна спакойная.

— Дамо табе сена. Ёсць у нас, шмат.

— Ага. Дзякуй табе. Цяпер усё толькі за грошы ці гарэлку падавай. А я не ганю. Няма апарата. Ды і цяжка, усю ноч сядзець, а мне нага баліць. Кароўка каб засталася. Малако — добра...

Дзед бурчаў і бурчаў, і Валодзька пачаў шукаць прычыну, каб пайсці.

— Добра, дзядзька, у краму пайду. Хлеба трэба купіць.

— Ага, ага. Маці прывітанне ад мяне.

— Перадам.

Наталька сустрэла ціха, было відаць, што дзяўчына забегалася за ўвесь дзень, але была (Воўка вельмі кахаў яе за гэта) прыемная і ласкавая, і так з усімі. Наталька накрыла на стол, сын ужо спаў у другім пакоі.

— Можа, пажэнімся? — запыталася яна.

— Нашто, мне і так з табой добра.

— Людзі пляткараць, а маці злуецца. Кажа, не па-людску.

— Ага, вунь Светка Касцюкова па-людску робіць, круціць спадніцай пры жывым мужу. Машына за машынай прыязджае.

— Сыну кепска без бацькі. У школе на яго скардзяцца.

— Ну дык выхоўвай яго.

— Не слухае. Кажа, паеду адсюль да бацькі.

— Хай едзе, гаўнюк.

Наталька прытуліла яго да грудзей.

— Цяжка мне адной.

— Ведаю. Мне таксама. Маці зусім старая.

— Маглі б да цябе з’ехаць. Хата вялікая ў вас.

— Ну, можна падумаць.

Валодзька засынаў, абняўшы Натальку за грудзі. Яна была вельмі цёплая і пяшчотная, і здавалася — вось яно, шчасце, толькі ён не верыў гэтым пачуццям. Прызвычаіўся не верыць. А толькі думаў аб тым, што рабіць далей і куды падзецца ў гэтым Богам праклятым краі.

# Дзядуля з кійком, якога цягнулі некалькі амапаўцаў, расказаў, як уцёк з аўтазака




## Фота яго затрымання абышло сусветныя СМІ.

25 сакавіка ў Мінску затрымалі не менш за 700 чалавек — іх віна заключалася ў тым, што яны хацелі выйсці на дэманстрацыю пратэсту. Сярод затрыманых аказаўся і 80-гадовы Ян Грыб. Да пенсіі ён працаваў інжынерам-электронікам.

У рукі амапаўцаў, расказвае ён, трапіў, калі заўважыў, як міліцыя збівае двух хлопцаў. Не вытрымаў, падышоў да іх і сказаў усё, што думае. Пасля гэтага вырашылі затрымаць і яго.

— Падскочылі — і мяне пад рукі. Не столькі я ўжо ішоў, колькі яны мяне неслі. І занеслі ў аўтазак. Туды яшчэ кінулі некалькі жанчын, хлопцаў, нават аднаго карэспандэнта. Павезлі нас ад плошчы Якуба Коласа за Філармонію і спыніліся. Там сталі перагружаць з нашага аўтазака ў суседні. Пачалася мітусня, людзі сталі вылазіць з аўтазака. Малады і хуткі хлопец як ірвануў уцякаць — амапаўцы кінуліся за ім. Скарыстаўшыся момантам, я шмыгнуў за аўтазак. Так я ўцёк, — распавядае дзядуля.

Ян Грыб нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Куршыновічы на мяжы Ляхавіцкага і Ганцавіцкага раёнаў.

— Калі пасля вайны бальшавікі пачалі ў Заходняй Беларусі ствараць калгасы, моладзь пачала разбягацца, заплюшчыўшы вочы, ва ўсе бакі. У асноўным на расійскія бясконцыя палі і ўсякія заводы, дзе патрэбна была добрая рабочая сіла. Бальшавікі ахвотна туды вербавалі беларусаў, таму што ведалі, што беларусы працавітыя. Так я апынуўся ў Расіі і да 1960-га года там жыў, потым вярнуўся ў Беларусь і скончыў універсітэт, — успамінае ён.

Яшчэ Ян Грыб піша вершы. У лесе пад Дзяржынскам ён пабудаваў сваімі рукамі хату з печчу. «Цяпер я не магу там жыць, таму што прайшоў толькі год пасля інфаркту. Аднаўляюся патроху», — кажа ён.

На Дзень Волі Ян Грыб пайшоў, таму што лічыць гэты дзень вялікім нацыянальным святам.

— Мяне і судзілі, і штрафавалі, і білі, ой-ёй-ёй, успамінаць прошта прыкра, — адзначае ён. — Хоць напаўмёртвы буду, але буду хадзіць!

**Фота: Svaboda.org, гутарыла Наталля Касцюкевіч, Tut.by**

*Працяг тэмы на старонцы 3.*

**Генпракурор прапанаваў штрафаваць СМІ «за некарэктную падачу інфармацыі»**

Пра тое, што некаторыя СМІ неаб'ектыўна падаюць інфармацыю і вартыя штрафаў за гэта, генеральны пракурор Аляксандр Канюк заявіў журналістам перад пачаткам пасяджэння палаты прадстаўнікоў 3 красавіка.

Заява прагучала ў ходзе абмеркавання разгону мірнай акцыі 25 сакавіка.

«Вы бачылі мірных дэманстрантаў? А я бачыў не вельмі мірных», — сказаў Канюк.

На пытанне, у чым заключалася намірнасць, Канюк адказаў пытаннем: «А ў чым заключалася мірнасць?».

**Арцём Гарбацэвіч**




**На «ўціхамірванне Мінска» былі кінутыя спецсілы міліцыі.**



**Анекдоты і жарты**

* * *

Лічу, што гэта палавінчатая мера — абавязаць дзяржслужачых працаўладкаваць сваіх каханак. Трэба яшчэ прымусіць тых чыноўнікаў, у якіх няма каханак, завесці іх з ліку дармаедак. І потым працаўладкаваць.

* * *

Аб'ява: «Шукаю працу сядзелкі. Адседзела 15 гадоў».

* * *

— Янка, ты будзеш нарэшце пісаць завяшчанне ці не?
— Ой, Настачка, я такі яшчэ малады.
— Вось за гэта не хвалюйся.

* * *

Я хацеў пачаць займацца спортам, але нешта пайшло не так і пачаў займацца праглядам серыялаў.

* * *

На прыёме ў псіхолага:
— Напішыце ліст чалавеку, які вас моцна раздражняе, і спаліце яго.
— Добра. А з лістом што рабіць?

* * *

Дзеля цябе я нават гатовы з Velcom на МТС патэлефанаваць.

* * *

Што пакажа мама пасля словаў: «Ідзі скарэй сюды, нешта пакажу»:
Нешта цікавае — 1% імавернасці.
«Глядзі, колькі пылу!» — 99%.

**«НН» сто гадоў з вамі**

**По нашых валасцёх** рассылаецца шмат чарнасоценскіх газет: «Россія», «Мінское слово». Дзівяцца нашы мужыкі: то поп у царкве газеты раздае, то пісар у воласці ў руку совае. Мужыкі бяруць газеты і носяць іх у краму да Соркі, а яна за кожныя дзве газеціны дае аркуш паперы на папяросы, і мае карысць, бо гэтыя такія вялікія, што адною можна паабварочваць паўпуда селядцоў.

**«НН». №14. 1907**

**«Беларусы і расіяне** — гэта адзін народ. Мы нічым не адрозніваемся па менталітэце, — сказаў кіраўнік дзяржавы. — Нашы інтарэсы і ў Расіі, і ў Еўразаюзе — мы еўрапейская дзяржава». Аб гэтым заявіў сёння прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, адказваючы на пытанні журналістаў у час рабочай паездкі па Брэсцкай вобласці.

**«НН». 4 красавіка 2007**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Андрэй Скурко, Зміцер Панкавец
в. а. галоўнага рэдактара Ягор Аляксандравіч Марціновіч
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
**індывідуальны — 63125**
**для прадпрыемстваў — 631252**



Наклад 6001. Газета выдаецца 12 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 04.04.2017.
Замова №1270.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

